БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 4—6, 1929

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 4—6



ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1929



## Галоўныя моманты працы Цэнтральнага Камітэту Беларускага Чырвонага Крыжу за поўгода.

*(З 27-га кастрычніка 1928 г. па 26-е красавіка 1929 г.).*

Даклад тав. Барсукова на 3-м Пленуме ЦК 3-га мая 1929 года.

**Аналіз бюджэту Т-ва.** Раней, чым прыступіць да ацэнкі тэй працы, якую правёў Прэзыдыум Цэнтральнага Камітэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу за апошнія шэсьць месяцаў, неабходна спыніцца на аналізе выкананьня нашага бюджэту за 1927—1928 г. г. Гэта зрабіць неабходна, бо тады будуць зразумелым абставіны, у якіх прыходзілася працаваць Цэнтральнаму Камітэту. Акрамя таго, уважлівы перагляд дынамікі выкананьня бюджэту дазволіць акрэсьліць сучаснае, сапраўднае становішча нашага Таварыства на аснове сапраўдных лічбаў, а ня тых, часам „потолочных данных“, якія нам прысылаюць акругі. Тут перад вамі прадстане сухая, але вельмі выразная мова лічбаў, якая з поўнай адкрытасьцю выявіць ўсе нашы дасягненьні і недахопы.

Аналіз выкананьня бюджэту 1927—1928 г. г. прапрацован сябрам ЦК тав. Асятровым на падставе кніжных запісаў бухгальтэрыі Цэнтральнага Камітэту. Але тут прыдзецца агаварыцца. Веды, якія атрымоўваюцца з акруг, далёка няпоўныя, бо апошнія пасылаюць свае справаздачы ў Цэнтральны Камітэт у большасьці выпадкаў з вялікім спазьненьнем.

Першапачатковым каштарысам прыбытковая частка бюджэту ўсяго Таварыства была намечана ў разьмеры 251.180 р.; выканана толькі 71% у разьмеры—180.483 р. 60 к. Па ЦК было намечана—104.000, выканана 105.802-11. Па мясцоваму бюджэту было намечана—69.853, выканана—33.754-49. Выканком Чырвоных Крыжаў і Чырвоных Паўмесяцаў павінен быў даць—58.927, даў толькі—40.927.

Агульныя сумы паказваюць выкананьне цэнтральнага бюджэту з лішкам на 1,8%. Выканком не дадаў 30,2%. Але калі прыняць пад увагу, што нашы першапачатковыя лічбы супроць асыгнаваных Выканкомам былі павялічаны на 21.000 р. для пашырэньня працы, дык фактычнае выкананьне Выканкомам будзе таксама перавышаць на 3.000 руб. альбо 108%.

Мясцовы бюджэт выканан менш паловы свайго пляну альбо толькі 48,3%.

Нам трэба спыніць сваю ўвагу на невыкананьні акругамі намечаных прыбыткаў і падыйсьці да растлумачэньня тых прычын, якія гэта выклікалі. Тут магло мець значэньне або тое, што пленум зрабіў памылку і занадта надбавіў прыбыткі або акругі не скарысталі ўсіх магчымасьцяй для сваячасовага атрыманьня намечаных узносаў. Я мысьлю, што другое вярней. На мясцох надта мала цікавіліся крыніцамі прыбыткаў Таварыства і больш спадзяваліся на Цэнтральны Камітэт, чым на свае ўласныя сілы.

Калі мы перагледзім па асобных акругах выкананьне прыбыткаў часткі бюджэту, дык атрымаем наступнае:

| | Атрымана ад ЦК | Атрымана на месцы |
|---|---|---|
| Менскі Акр. к-т . . . | 11.949 | 3.182 |
| Віцебск . . . . . . | 8.042 | 11.367 |
| Гомель . . . . . . | 5.449 | 6.887 |
| Магілеў . . . . . . | 2.265 | 5.415 |
| Орша . . . . . . | 3.140 | 2.622 |
| Бабруйск . . . . . | 3.477 | 1.523 |
| Полацак . . . . . | 3.903 | 1.498 |
| Мазыр . . . . . . | 2.008 | 527 |
| Чыг. Камітэт Заход. Чыгункі . . . . | 968 | 505 |

Гэта табліца паказвае, што ўзмацненьне фінансавай базы акруг, галоўным чынам, ішло за кошт Цэнтральнага Камітэту, прычым самым адсталым зьяўляецца, як гэта ня дзіўна, Менская акруга. У Віцебскай, Магілеўскай і Гомельскай акругах дапамога ЦК ня была асноўнай, і гэтыя акругі знаходзілі сабе сродкі на працу ў сябе на мясцох.

Наступная табліца дасьць прадстаўленьне аб характары прыбытковых паступленьняў.

| Віды прыбыткаў | Каштарыс | Выканана | % выкан. да сум. бюдж. | % выкан. да патрэбных лічб |
|---|---|---|---|---|
| Сяброўск. узносы . . | 18.813 | 5.164—39 | 8,1 | 27,4 |
| Розныя атрыманьні . . | 15.000 | 8.529—30 | 13,5 | 56 |
| Афяры . . . . . . | 15.850 | 10.516—87 | 16,5 | 67 |
| Прыбыткі прадпр. . . | 17.690 | 8.853—24 | 14,1 | 50 |
| Зваротныя сумы . . . | — | 690—69 | 1,1 | — |
| | 69.853 | 33.754—49 | 53,3 | 48,3 |

Гэта табліца падкрэсьлівае слабасьць працы мясцовых арганізацый нашага Т-ва. Напрыклад, вельмі нязначная арыентыровачная сума сяброўскіх узносаў выканана толькі на 27,4% і іншыя—на 56,67%. Мы шмат разоў гаварылі аб тым, што калі Чырвоны Крыж адмовіўся ад камэрцыйнай дзейнасьці, дык ён павінен цалкам базіравацца на сяброўскіх узносах. А што-ж мы бачым у сапраўднасьці? Мы можам упэўнена тут адзначыць, што гэта дырэктыва ня выканана, і сяброўскія ўзносы да гэтага часу яшчэ не адыгрываюць той вялікай ролі ў прыбытковай частцы бюджэту, якую яны маюць. Параграф аб розных прыбытках, калі яго расшыфраваць, датычыць ступені ініцыятывы месц у сэнсе вышуканьня ўсялякіх магчымасьцяй для павялічэньня сродкаў Таварыства. Тут таксама нічога прыемнага сказаць нельга. Відаць, што і ў галіне ініцыятывы ў нас абстаіць справа далёка ня добра.

Выкананьне мясцовага бюджэту ў разрэзе асобных акруг па санітарным мерапрыемствам і сяброўскім узносам ішло ў гэткім відзе:

| Сан. будаўніцтва | | | Назва акругі | Сяброўскія ўзносы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Каштарыс | Выкарыстана | %%% вык. | | Каштарыс | Выканана | %%% вык. |
| 2690 | 11—50 | 4 | Менская . . . | 5159 | 631—61 | 12,5 |
| 2000 | 1585—66 | 79 | Віцебская . . . | 1625 | 785—12 | 48 |
| 1900 | — | — | Гомельская . . . | 2925 | 591—15 | 20 |
| 1250 | 514—77 | 41 | Полацкая . . . | 1150 | 430—72 | 29 |
| 2200 | 200 | 9 | Бабруйская . . . | 1750 | 496—98 | 28 |
| 2500 | 442—17 | 18 | Магілеўская . . | 2750 | 1162—91 | 43 |
| 2200 | — | — | Аршанская . . . | 1650 | 831—68 | 50 |
| 1560 | 750 | 53 | Мазырская . . . | 1800 | — | — |
| — | — | — | Чыгун. К-т. . . | 825 | 303—99 | 37 |
| 16300 | 3605—10 | 22,1 | | 19838 | 5234—16 | 27,4 |

Выдатковая частка бюджэту была намечана ў разьмеры 247.780 руб., выканана толькі—164.553 р. 5 к. або 66,4%. Па паасобных відах выдаткаў мы маем наступнае:

| | Вызначана па бюджэту | Выдаткована |
|---|---|---|
| Санітарная абарона . . | 108.335 | 43.021 |
| Мэдыка-грамадзкая праца | 76.624 | 59.911 |
| Утрыманьне апарату . . | 19.225 | 23.601 |
| Адміністрац. выдаткі . . | 9.478 | 9.584 |
| Выдавецтва . . . . | 5.250 | 7.874 |
| Стар. запазычанасьць . | 20.650 | 20.560 |

Тут нам кідаецца ў вочы зьмяншэньне выдаткаў па санітарнай абароне пры адначасовым павялічэньні адміністрацыйных выдаткаў. Таксама мала рабілася і ў галіне санітарных мерапрыемстваў, процант выдаткаў на якія дае ўсяго ў сярэднім толькі—22,1%.

Наступная табліца таксама дае адбітак характару працы нашых акруг.

| Апарат | | | Назва акругі | Гурткі першай дапамогі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Каштарыс | Выканана | %% | | Каштарыс | Выканана | %% |
| 1485—92 | 1998—83 | 135 | Менская . . . | 3750 | 4438—59 | 119 |
| 1351—72 | 2037 | 150 | Віцебская . . . | 1950 | 2187—24 | 112 |
| 1351—72 | 2101—24 | 155 | Гомельская . . . | 1660 | 968—21 | 58 |
| 1206—90 | 1163—07 | 96,5 | Полацкая . . . | 900 | 458—95 | 50 |
| 1047—27 | 2096—37 | 200 | Бабруйская . . . | 1950 | 60 | 3 |
| 1351—72 | 1912—48 | 142 | Магілеўская . . | 1500 | 566—84 | 38 |
| 1404—15 | 1326—85 | 95 | Аршанская . . . | 1050 | 145—67 | 14 |
| 1005—75 | 876—22 | 87 | Мазырская . . . | 750 | 2 | 2 |
| — | 180 | — | Чыгуначны К-т . | 800 | — | — |
| 10205—15 | 13692—06 | 134 | | 14300 | 8825—50 | 62 |

Утрыманьне апарату мае амплітуду ад 87 да 200% па асобным акругам, але агульная сума выканана на 134—з перавышэньнем на 34% супроць каштарысу.

Выдаткі па гурткох першае дапамогі, ня гледзячы на іх стыхійны рост—выкананы толькі на 62%, пры чым акругі Бабруйская, Аршанская, Мазырская прынялі вельмі малы ўдзел у гэтай справе і працавалі амаль што без літаратуры.

**Аналіз складу сяброў Т-ва.** Пераходжу да пытаньня аб колькасьці сяброў нашага Таварыства. На 1-е кастрычніка 1928 г. было 36.109 сяброў. К 1-му студзеня 1929 г. гэта лічба павялічваецца да 41.737. Па сацыяльнаму паходжаньню яны разьмяркоўваюцца гэтак: на першым месцы стаіць група служачых. Яна займае 26,9%; далей ідзе група сялян—22,9%; потым рабочыя—16,2%; чырвонаармейцы—11,6%; іншыя—9,2%; вучняў—5,5%; аб 4,3% зусім няма вестак і, нарэшце, група саматужнікаў займае—3,4%. Гэткім чынам, касьцяком усёй нашай арганізацыі зьяўляюцца сяляне, служачыя і рабочыя. Але тут-жа трэба адзначыць, што рабочая група моцна адстае. Няпрыемлемым у гэтым пераліку зьяўляецца наяўнасьць групы, так званых, „іншых“ і тых, аб якіх няма ніякіх вестак. Гэта гаворыць аб няўважлівых, нядбайных адносінах нашых працаўнікоў на мясцох да гэткага важнага пытаньня, як сацыяльны склад усёй нашай арганізацыі. Гэткае зьявішча трэба ізжыць, інакш ніякай сацыяльнай цэннасьці Беларускі Чырвоны Крыж прадстаўляць ня будзе і ўся наша праца зьвядзецца да нуля.

Па партыйнасьці склад арганізацыі наступны:

*На 1 студзеня 1928 г.* Сяброў КП(б)Б—8,8%, КСМ—8,2%, бесп.—83%.

*На 1 студзеня 1929 г.* Сяброў КП(б)Б—6,5%, ЛКСМ—7,5%, бесп.—86%.

Гэтыя лічбы выразна гавораць аб тым, што ў напрамку прыцягненьня ў рады Белар. Чырвонага Крыжу партыйных кадраў зроблена мала і ня ўсё належнае. На гэтую справу трэба як найхутчэй зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Па нацыянальнаму складу на 1 кастрычніка 1928 г. мы мелі: беларусоў—41,2%, а на 1 студзеня 1929 г.—47,2%—некаторае павялічэньне. Другой групай ідуць яўрэі: было 15,7%, ёсьць—15,9%—павялічэньне нязначнае. Група „невядомых“ тут выпірае на віднае месца. На 1 студз. 1928 г. мы мелі „невядомых“ 33,9%, а на 1 студзеня 1929 г. гэта група зьнізілася да 19,7%. Што гэта за людзі? Нэгры, абісінцы—мы ня ведаем. Акругам, як відаць, ня было часу займацца нацыянальнымі

дасьледваньнямі, і яны пастараліся назваць іх лёгкім, але нічога не гаворачым імям—„невядомыя“. Тое-ж самае датыча і групы „іншых“. Было 2,1%, ёсьць—9,2. Зусім незразумела, што хацелі пад гэтым словам напісаць аўтары даваемых ведаў?

Група расійцаў (6,2%—5,7%) і палякаў (1,3%—1,5%) даволі стабільная.

Калі мы параўняем лічбы намечаных па бюджэту паступленьняў ад сяброўскіх узносаў і лічбы колькасьці сяброў, дык нас зьдзівіць адно зьявішча. Гэта неадпаведнасьць паміж гэтымі двома момантамі. Колькасьць сяброўскіх узносаў не адказвае лічбе сяброў Таварыства. Што гэта значыць? Можна даць некалькі тлумачэньняў. Або занадта вялікая сума была намечана пленумам для сяброўскіх узносаў, або сяброўскія ўзносы ня зьбіраюцца, або колькасьць сяброў не адпавядае сапраўднасьці. У правільнасьці разьліку сумнявацца ня прыходзіцца, бо пры грубым падліку, калі падзяліць усю суму намечаных сяброўскіх паступленьняў на агульную колькасьць сяброў Таварыства, дык на душу кожнага прыдзецца 20 кап., што зусім адпавядае сапраўднасьці. Прычыну прыходзіцца шукаць хутчэй усяго ў тым, што і тут мае месца поўная нядбайнасьць да ўзіманьня сяброўскіх узносаў і ніхто на гэта не зьвяртае належнай увагі.

Якія вывады і прапановы трэба зрабіць на будучыню з усяго гэтага аналізу?

1) Прыбытковая частка бюджэту выканана толькі на 71,9%. Невыкананьне бюджэту, галоўным чынам, падае на мясцовы бюджэт.

2) Узмацненьне фінансавай базы Акруг у значнай ступені ішло за кошт ЦК.

3) Надта слабае паступленьне прыбыткаў ад сяброўскіх узносаў, якія складаюць усяго толькі 27,4% намечанага каштарысу. Гэта паказвае ці на дрэнныя адносіны да ўзіманьня сяброўскіх узносаў, ці што лік сяброў не адпавядае сапраўднасьці.

4) Слабае выкананьне выдатковай часткі бюджэтаў па санітарнаму будаўніцтву і па санітарнай абароне краіны, пры наяўнасьці павялічэньня адміністрацыйных выдаткаў.

5) У далейшым неабходна ўсім Акруговым Камітэтам найхутчэйшым чынам ліквідаваць усе гэтыя ненармальнасьці, якія паказваюць на нядбайныя адносіны да нізавой працы. Неабходна строга сачыць за выкананьнем грамадзкай дысцыпліны ў справе зьбіраньня сяброўскіх узносаў. Адказнасьць за своечасовае паступленьне сяброўскіх узносаў трэба ўскласьці на прэзыдыумы Раённых Камітэтаў. Кожны сябра Чырвонага Крыжу павінен памятаць, што сяброўскі ўзнос зьяўляецца адным

з галоўнейшых адзнак таварыскай салідарнасьці ўсяго чырвонакрыжнага каляктыву і складае асноўную фінансавую базу для дзейнасьці ўсёй арганізацыі. Пытаньне аб неабходнасьці сваячасовага ўнясеньня сяброўскіх узносаў трэба паставіць ва ўсю шырыню на масавых сходах сяброў Чырвонага Крыжу. Акругі павінны даць Цэнтральнаму Камітэту падрабязнае тлумачэньне прычын гэткага няпоўнага выкананьня бюджэту.

б) Улічваючы вопыт мінулых гадоў, трэба сваячасова скласьці кантрольныя лічбы бюджэту на 1929—30 год, разаслаць іх не пазьней 1 чэрвеня па акругам, каб к верасьню магчыма было-б зацьвердзіць увесь бюджэт. У далейшым трэба практыкаваць складаньне балянсу не пазьней 1 лістапада, каб мець поўны аналіз фінансавага становішча.

## Школа мэдычных сясьцёр.

Цяпер пераходжу да пытаньня аб школе мэдычных сясьцёр. Трэба акрэсьлена сказаць, што наша школа за час, які мінуў з 2-га пленуму Цэнтральнага Камітэту, значна ўзмацнілася. Усім вядома, як мы неаднакроць вазіліся з ёй і па лініі штатаў і па пытаньні складу курсантак, і ў справе аб памяшканьні для інтэрнату. Цяпер становішча некалькі стабілізавалася і наступіў супакой. Але толькі адна частка ўсяго гэтага пытаньня надалей нас непакоіць—гэта незабясьпечанасьць жыльлёвай плошчай слухачак школы.

Становішча школы падрабязна высьветлена ў матар'ялах дырэктара тав. Сьцельмашонка, які я тут і прыводжу поўнасьцю.

## Арганізацыйнае кіраўніцтва школай.

Штодзенныя пытаньні школы вырашаюцца Дырэктарам і Загадчыкам гаспадаркі. Больш важныя пытаньні ставяцца на вырашэньне Школьнага Савету, які складаецца з Дырэктара школы (ён-жа Старшыня Савету), Загадчыка гаспадарчай часткі (ён-жа Сакратар Савету), прадстаўніка выкладчыкаў, прадстаўніка студэнтак і ЦК Чырвонага Крыжу. Таксама існуе і Пэдагагічны Савет, які складаецца з Дырэктара (ён-жа Старшыня), усіх выкладчыкаў і прадстаўнікоў ад кожнага курсу студэнтак. Пэдагагічны Савет разьбірае пытаньні, зьвязаныя з выкладаньнем.

## Склад студэнтак школы.

З пачатку навучальнага году на другім курсе было 95 чалавек і было прынята на першы курс 92 чал., разам 187 чал. На 1-е красавіка мы маем на другім курсе 86 чал., на пер-

шым—78 чал., разам 164 чал. Памяншэньне колькасьці асоб тлумачыцца:

*Па 2-му курсу:*

1. Пакінулі школу па асабістаму жаданьню . 4 ч.
2. Пераведзены ў іншыя ўстановы . . . . . 1 ч.
3. Выключана па сацыял. стану . . . . . . 4 ч.

Разам . 9 ч.

*Па 1-му курсу:*

1. Пакінулі школу па асабістаму жаданьню . 12 ч.
2. Выключана па сацыяльнаму стану . . 2 ч.

Разам . 14 ч.

*Увага.* Значная колькасьць, асабліва па 1 курсу, пакінулі школу па матар'яльных умовах. Забясьпечыць стыпэндыямі іх ня было магчымасьці, дзякуючы недастатковай колькасьці іх.

Такім чынам, па сацыяльнаму паходжаньню мы маем на 1/IV-29 года.

| Соцыяльнае паходжаньне | На 1 курсе | На 2 курсе | Разам | % % |
|---|---|---|---|---|
| 1. Рабочых і іх дзяцей . | 50 | 43 | 93 | 56,4 |
| 2. Батрачак і сялянак . . | 14 | 9 | 23 | 17,0 |
| 3. Служачых і іх дзяцей . | 14 | 33 | 47 | 29,0 |
| 4. Іншых (працаўнік дзетдому) . . . . | — | 1 | 1 | 0,6 |
| Разам . . | 78 | 86 | 164 | 100 % |

*Увага.* Сяброў Саюзу Мэдсанпрацы—87, іншых—3, разам—90 чал.

1) У катэгорыю рабочых і дзяцей рабочых уключаны былыя санітаркі і хатнія работніцы.

2) Пры паступленьні былі выпадкі скрыцьця сацыяльнага становішча, як напрыклад: піша—сялянка, а запраўды дачка папа; піша—працоўная, а запраўды дачка гандляра, пазбаўленага права голасу. Выходзячы з гэтага, трэба адзначыць ня зусім сур'ёзны падыход Прыймовай Камісіі пры адборы. Зараз, па зьнішчэньню гэтых недахопаў, вядзецца энэргічная праца па высьвятленьню сапраўднага

соцыяльнага паходжаньня студэнтак, вынікам чаго ўжо 6 асоб выключана.

| Партыйнасьць | 1 курс | 2 курс | Разам | % % |
|---|---|---|---|---|
| 1. Членаў і канд. КП(б)Б | 3 | 7 | 10 | 6,5 |
| 2. Членаў ЛКСМ. . . . | 30 | 27 | 57 | 34,5 |
| 3. Беспартыйных. . . . | 45 | 52 | 97 | 59 |
| | 78 | 86 | 164 | 100 % |

Такім чынам, партыйна-камсамольскі асяродак складаецца з 42 %, але ўсё-ж такі трэба адзначыць малую колькасьць партыйцаў, асабліва на 1-м курсе (3 чал.).

| Нацыянальнасьць. | 1 курс | 2 курс | Разам | % % |
|---|---|---|---|---|
| 1. Беларусаў . . . . . . | 39 | 40 | 79 | 47,0 |
| 2. Яўрэяў. . . . . . . . | 30 | 40 | 70 | 42,0 |
| 3. Расійцаў . . . . . . . | 7 | 6 | 13 | 9,8 |
| 4. Латышоў. . . . . . . | 1 | — | 1 | 0,6 |
| 5. Палякаў . . . . . . . | 1 | — | 1 | 0,6 |
| | 78 | 86 | 164 | 100 % |

| Па адукацыі | 1 курс. | 2 курс. | Разам. | % % |
|---|---|---|---|---|
| 1. Законч. 9-цігодку . . | 13 | 42 | 55 | 34,0 |
| 2. „ 7-мі „ . . | 24 | 32 | 65 | 34,6 |
| 3. Ня маюць 7-мігодкі . | 41 | 12 | 53 | 32,4 |

Трэба адзначыць, што на 1 курсе значны процант (41 ч.) ня мае адукацыі сямігодкі. Дзеля таго, што навучальная праграма школы вымагае ведаў за курс сямігодкі, адзначаецца недастатковая пасьпяховасьць гэтай часткі студэнтак.

### Акругі прадстаўлены наступным чынам.

| | 1 курс | 2 курс | Разам | % % |
|---|---|---|---|---|
| 1. Менская . . . . . . . | 23 | 50 | 73 | 45,0 |
| 2. Гомельская. . . . . . | 16 | 5 | 21 | 12,0 |
| 3. Віцебская. . . . . . . | 11 | 9 | 20 | 12,0 |
| 4. Бабруйская. . . . . . | 9 | 7 | 16 | 9,6 |
| 5. Полацкая. . . . . . . | 6 | 2 | 8 | 5,0 |
| 6. Мазырская . . . . . , | 5 | 2 | 7 | 4,0 |
| 7. Магілеўская . . . . . | 4 | 5 | 9 | 6,0 |
| 8. Аршанская . . . . . . | 4 | 6 | 10 | 6,4 |

### Матар'яльнае становішча студэнтак.

Зараз ёсьць 113 стыпэндый па 20 руб. кожная, з якіх 111 Чырвонага Крыжу і 2 ЦП Саюзу Мэдсанпрацы. Па 20 руб. 110 і па 10 руб. 6 студэнтак. Такім чынам, атрымоўваюць стыпэндыю 116 студэнтак.

У сучасны момант ёсьць 3 інтэрнаты, плошчай каля 80 кв. саж., у якіх жыве 104 студэнткі. Сучаснае пашырэньне плошчы інтэрнату, у параўнаньні з ранейшай, недастатковае. 2 інтэрнаты знаходзяцца ў прыватных дамох і дорага абыходзяцца. Інтэрнаты забясьпечаны неабходным абсталяваньнем, ложкамі, сталамі, табурэткамі і сяньнікамі. Дзеля карыснага скарыстаньня часу ў інтэрнатах маюцца правілы ўнутранага распарадку. Агульным жыцьцём інтэрнату ведае староста, які абіраецца яго жыхарамі. За штодзенным парадкам сочыць дзяжурная па інтэрнату, так што жыцьцё інтэрнату можна лічыць здавальняючым. За адсутнасьцю сваёй сталоўкі студэнткі абедаюць у сталоўцы МЦРК, карыстаючыся адным абедам на дзьве асобы.

### Грамадзкая праца студэнтак.

За гэты навучальны год мы маем значнае разгортваньне грамадзкае працы студэнцкіх арганізацый школы (Прафком, Парт. і камсамольская ячэйка).

Студэнткі ўваходзяць у наступныя грамадзкія добраахвотныя таварыствы:

1. Чырвоны Крыж . . . . 147 чал.
2. Мопр . . . . . . . . . 130 „
3. АСО-Авіахім . . . . . 60 „
4. Азэт . . . . . . . . . 50 „
5. Шэфтаварыства . . . . 76 „

Працуюць наступныя гурткі:

1) Прафпаліт. гурткоў—3, у якіх займаюцца 71 чал.
2) Парт. гурток, акрамя партыйцаў—20 чал. беспарт.
3) Хор—25 чал.
4) Літаратурны гурток—20 чал.
5) Вайсковы гурток—35 чал.

Уся культурна-выхаваўчая праца вядзецца па інтэрнатах. Выпісваецца 22 экз. розных газэт і 15 экз. журналаў.

## Вучэбная частка.

Выкладчыкамі ў школе зьяўляюцца, галоўным чынам, выкладчыкі мэдфаку БДУ. Аплата лекцый робіцца палекцыйна. Склад выкладчыкаў наступны: прафэсароў—8 чал., дацэнтаў—4, асыстэнтаў—8 і настаўнікаў—7 чал.

Ня гледзячы на тое, што заняткі ідуць у будынку мэдфаку БДУ, дзе прыходзіцца прыстасоўвацца да вольнага часу іх, лекцыі, а таксама і практычныя заняткі ў гэтым навучальным годзе прайшлі здавальняюча на абодвых курсах. Праўда, у першым сэмэстры былі недахопы, як-та: нясур'ёзныя адносіны часткі выкладчыкаў да правядзеньня свайго курсу, што прымусіла запрасіць на іх месца другіх выкладчыкаў. Некаторыя дысцыпліны, дзякуючы таму, што позна пачаліся, ня скончыліся ў першым сэмэстры і былі перанесены на другі (фізыка, хэмія і агульная гігіена), цяпер яны ўжо закончаны і па ім здаюцца залікі. К 1-му чэрвеня канчаецца навучальны год і да 15 чэрвеня будзе залікавая сэсія. Першым і другім курсам будзе выканана тая частка навучальнага пляну, якая падае на гэтыя курсы.

Пасьля сканчэньня чыткі курсаў, адбываюцца экзаміны, якія запісваюцца студэнтцы ў залікавую кніжку і ў ведамасьць выкладчыкаў; апошняя прадстаўляецца ў школьны савет, на падставе чаго робіцца перавод студэнтак на наступны курс.

Студэнткі забясьпечаны падручнікамі па ўсіх дысцыплінах (акрамя фармаколёгіі, якой няма дзе дастаць). Трэба адзначыць недастатковую колькасьць падручнікаў (на групу па 4—6 экз.) Тлумачыцца гэта недастатковасьцю сродкаў школы і адсутнасьцю падручнікаў на рынку.

Наведваньне лекцый і практычных заняткаў студэнткам здавальняючае. Праўда, ў пачатку другога сэмэстру было некаторае паслабленьне, але дзякуючы сваячасовай заўвазе нам гэта ўдалося зьнішчыць. 2-гі курс праходзіць практыкум у клініцы хірургічнай і тэрапэўтычнай; мэта практыкуму—даць агульнае азнаямленьне з больніцай і некаторыя тэхнічныя навыкі ў працы сястры. У будучым навучальным годзе таксама будзе практыкум у больніцах па ўсіх спэцыяльнасьцях, дзе яны будуць вучыцца даглядаць хворага.

Падрыхтоўваецца пытаньне аб спэцыялізацыі на 3-м курсе ў галіне ахматмладу і па догляду за хворым.

Для большай практычнай падрыхтоўкі ўтвараецца летні практыкум. У гэтым годзе студэнткі 2-га курсу паедуць на працу ў райбольніцы, кожная ў сваю акругу, на што ёсьць пастанова нарады акруговых інспэктароў НКАЗ.

*Увага.* 1 курс будзе выкарыстаны на працы ў яськлях.

### Грашова-гаспадарчая частка школы.

Па каштарысу на 1928-29 навучальны год адпушчана 47.372 руб. Скарыстана на 1-е красавіка 1929 г. 19.525 р. 83 к.

| №№ п/п. | Выдаткі па каштарысу | Каштарыс 28/29 г. | Выдаткі з пачатку году | Рэшта асыгнав. сумы каштар. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Зарплата . . . . . | 3072 | 1073—82 | 1998—18 |
| 2. | Канц. выдаткі . . . | 300 | 73—79 | 226—21 |
| 3. | Абшчажыцьце . . . | 3700 | 3699—87 | —13 |
| 4. | Вуч. падручн. . . . | 800 | 518—92 | 281—08 |
| 5. | Лябаратор. рэакт. . | 500 | 121—09 | 378—91 |
| 6. | Арган. выдаткі . . . | 1500 | 769—14 | 730—86 |
| 7. | Плата лектаром . . . | 10050 | 4139—75 | 5910—25 |
| 8. | Стыпэндыі . . . . | 26400 | 12910—00 | 13490—00 |
| 9. | Іншыя выд. . . . . | 1050 | 339—64 | 710—36 |
| | | 47372 | 23646—02 | 23725—98 |

Якія вывады можна зрабіць для далейшае працы школы?

Школа, бязумоўна, зьяўляецца вялікім дасягненьнем усяго нашага Таварыства. Мы ўпяршыню ў БССР стварылі той цэнтр, які будзе даваць органам аховы здароўя неабходны кадр падручнага сярэдняга мэдыцынскага пэрсаналу. Але гэтага для нас мала. Мы павінны ня толькі рыхтаваць добрых мэдыцынскіх тэхнічак, якія змогуць рабіць перавязкі раненым і першую дапамогу хворым. Ня толькі гэта зьяўляецца нашай задачай. Нам трэба, акрамя таго, мець у школе сваю базу, свой штаб будучых актыўных арганізатараў Чырвонага Крыжу, правадыроў яго ідэй сярод рабочых і сялянскіх мас. На

грамадзкую працу сясьцёр, на падрыхтоўку іх да гэтай грамадзкай працы, на выхаваньні іх як прапагандыстак ідэй Чырвонага Крыжу,—нам трэба зьвярнуць увагу і паставіць гэта як ударную задачу перад кіраўнікамі школы. Трэба прызнацца, што ў гэтым напрамку яшчэ далёка ня ўсё зроблена. Матар'ялы тав. Стальмашонка выразна гавораць, што курсанткі яшчэ не ўсьвядомілі сваёй ролі ў нашым Таварыстве і мала цікавяцца яго працай. Узяць хоць-бы справу ўдзельнічаньня слухачак у санітарных дружынах, у гуртках першай дапамогі ў працы Чырвонага Крыжу наогул. Тут здараюцца вельмі няпрыемныя факты. Мы можам канстатаваць, што ня ўсе 100% студэнтак актыўна працуюць у Чырвоным Крыжы. Гэткае зьявішча недапушчальна, і мы павінны зрабіць усё ад нас залежнае, каб склад школы на 100% быў-бы ўцягнут у актыўную працу Чырвонага Крыжу.

Другое пытаньне, якое ўзьнікае ў нас—гэта далейшае знаходжаньне школы на бюджэце Цэнтральнага Камітэта. Мы рабілі спробы і па лініі сёлетняга бюджэту і па лініі пяцігодкі—перадаць школу Наркамасьветы. Усе нашыя спробы ня ўвянчаліся посьпехам, і школу ад нас ня ўзялі. Які быў асноўны матыў адмоўных адносін да ўзьнятага пытаньня? Бязумоўна, тут мела значэньне і тое, што не хацелі перагружаць дзяржаўны бюджэт, калі ёсьць магчымасьць школу трымаць за кошт грамадзкай арганізацыі. Другі матыў быў той, што лічылі школу па праву прыналежачай Чырвонаму Крыжу, бо яго простая функцыя, падрыхтоўваць мэдыцынскіх сясьцёр для мэдыцынскай дапамогі. І, нарэшце, самая няістотная матывіроўка была ў тым, што нежаданьнем узяць школу на дзяржаўны бюджэт хацелі падкрэсьліць тую абставіну, што яна нібы-то была арганізавана бяз згоды плянавых органаў. Зразумела, апошняя матывіроўка самая няпрыгодная, аб ёй наогул ня трэба гаварыць; „пакараньне“ магчыма заўсёды знайсьці ў іншай форме, а не пераносіць яго на работніц і сялянак, якія жадаюць атрымаць кваліфікацыю і прыехалі не за тым, каб слухаць дыскусыйныя спрэчкі, а каб вучыцца. Адзіным прыемлемым аргумантам зьяўляецца прызнаньне неабходнасьці дапамагчы Дзяржаве ў справе прафэсыйнай адукацыі і тым самым даць Нар. Кам. Аховы Здароўя неабходны яму кадр кваліфікаванага мэдпэрсаналу, так патрэбны лячэбна-прафіляктычным установам. Я лічу, што ўжо час спыніць усе далейшыя гутаркі аб перадачы і ўзяць рашучы курс на застаўленьні школы ў распараджэньні Цэнтральнага Камітэту. Што мы ад гэтага атрымаем? Бязумоўна, пры правільна пастаўленай працы ўнутры школы, пры ўтварэньні са школы сапраўднай базы для падрыхтоўкі работніц па Чырвонаму Крыжу і пры поўным ўцягненьні ў грамадзкую працу Чырвонага Крыжу ўсіх слухачак—мы атрымаем магутны актыў для нашых перэфэрычных ячэек.

Калі гэта палажэньне будзе намі прынята, і мы канчаткова застановімся на мысьлі застаўленьня школы ў нас, дык натуральна ўзьнікне другое пытаньне аб стварэньні лепшых умоў для вучэбнай працы. Тут трэба кардынальна разьвязаць задачу і проста падыйсьці да яе рашэньня шляхам пабудовы новага будынку. Цэнтральны Камітэт іменна так і глядзеў на гэту справу і ў свой час увайшоў з хадайніцтвам у Выканком аб датацыі ў форме доўгатэрміновай ссуды на будаўніцтва. Нашы пошукі ў гэтым напрамку мелі посьпех. Выканком згадзіўся ў прынцыпе на гэтае будаўніцтва. Першапачаткова мы склалі плян на 400.000 рублёў, але пасьля дэтальнага абгаварэньня ў прэзыдыуме вырашылі ўсё будаўніцтва разьбіць на некалькі гадоў, прыкладна, на 3 гады і ў першую чаргу пабудаваць інтэрнат для студэнтак. Выканком нам адпусьціў 50.000 рублёў доўгатэрміновага крэдыту і да гэтага мы дабаўляем з свайго бюджэту дадаткова 20.000 руб. Усяго гэткім чынам складзецца 70.000 рублёў. Гэтых сродкаў хопіць для таго, каб пабудаваць двох-этажны будынак, які можа зьмясьціць у сабе каля 150 чалавек. Акрамя таго, фундамант гэтак разьлічаны, каб можна было надбудаваць трэці этаж, што ў будучыне і будзе зроблена. Да пабудовы мы ўжо прыступілі і к верасьню месяцу можна думаць, што яна будзе скончана. Наступныя 2 гады разьлічаны на пабудову вучэбных памяшканьняў і дабудову інтэрнату.

Вось усё, што можна ў сучасны момант сказаць аб школе. Увага да яе ні ў якім разе не павінна быць аслаблена, і яна заўсёды будзе знаходзіцца ў цэнтры клопатаў усёй нашай арганізацыі. Добра падабраны сацыяльны склад школы з кваліфікаваным кадрам выкладчыкаў, плюс да гэтага ўнутраная чырвонакрыжная праца сярод вучаніц—дадуць нам магчымасьць спадзявацца, што мы створым з нашай школы ня толькі рассаднік мэдыцынскіх ведаў, але і нашу апору для прасоўваньня ў рабочыя і сялянскія масы сацыялістычнай культуры і чырвона-крыжных ідэй.

### Аддзел замежнай дапамогі.

Цяпер пераходжу да працы Аддзелу замежнай дапамогі. У асноўным усім вядома праграма дзейнасьці гэтага аддзелу; я толькі пастараюсь напомніць, што атрыманьне з Амэрыкі страхавых грошаў за службу ў амэрыканскай арміі сваякоў грамадзян, якія жывуць ў БССР,—зьяўляецца, бязумоўна, надта важнай працай, якая павінна быць заўсёды пастаўлена ў найлепшыя ўмовы для свайго разьвіцьця. Далей я цалкам падаю тыя матар'ялы, якія былі даны ў прэзыдыум т. Кузьмінскім загадчыкам гэтага аддзелу.

## Рух паступленьняў спраў.

| ТЭРМІНЫ | Лік спраў | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | У тым ліку | | | |
| | Разам | Вэтэранскіх | Маёмасных | Адшуканых родных | Аліментных |
| На 25/VI-1927 г. . . . | 1 | — | — | — | 1 |
| „ 1/I-1928 г. . . . . | 95 | 25 | 30 | 37 | 3 |
| „ 1/V „ . . . . | 183 | 40 | 70 | 50 | 3 |
| „ 1/X „ . . . . . . | 467 | 120 | 182 | 160 | 5 |
| „ 15/XII „ . . . . . | 537 | 131 | 203 | 182 | 7 |
| „ 15/IV-1929 г. . . . | 1215 | 155 | 330 | 750 | 15 |
| „ 1/V „ . . . . . . | 1460 | 157 | 332 | 353 | 18 |

## Вынікі працы.

| | Прысуджана доляраў | Атрымана буйн. чэк. доляраў | Атрымана дробн. чэк. доляраў | Разам атрымана (прыблізна) дол. |
|---|---|---|---|---|
| На 15/XII-1928 г. . . | 170.613 | 56.998,16 | 20000 | 76.998.16 |
| На 15/IV-1929 г. . . | 200.000 | 120.000 | Рэшта на працягу бліжэйшых 9-ці год | |

Акрамя гэтага, 22-м асобам пажыцьцёва прысуджана і імі атрымліваецца штомесячна 420 доляраў.

Адшукана родных каля 200 асоб.

Агульны лік дарэвалюцыйнай эміграцыі з Беларусі складае прыблізна 300—400 тысяч асоб.

Калі лічыць, што за час з 1914 года памерла і страчана сувязь з 5%—дык мінімальны лік магчымых спраў будзе 15—20 тысяч.

Пакуль што ахоплена каля 1.300 асоб.

Абслугоўваецца:

Горад — 10% усіх спраў 125
Мястэчкі — 15% „ „ 190
Вёска — 65% „ „ 935

## Арганізацыйная праца Аддзелу.

Праца Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ў галіне замежнае дапамогі пачалася 25/VI-1927 г. заявай гр. Сьцельмашонак з Гомельшчыны аб адшуканьні мужа і алімэнтах.

У далейшым, як паказвае прыведзеная табліца, колькасьць спраў штодзенна павялічвалася і 13 чэрвеня 1928 г. ЦК прымушаны быў прыняць на працу машыністку, якая-б займалася перапіскай толькі па справах замежнае дапамогі.

23-га лістапада 1928 г. Прэзыдыум ЦК ужо выдзяляе працу па замежнай дапамозе ў асобны Аддзел, які арганізаваны на падставе асобнага „Палажэньня аб аддзеле абароны матар'яльных інтарэсаў грамадзян БССР за межамі і аб Бюро адшуканьня“.

З 1/I-29 г. справаводзтва Аддзелу выдзелена з агульнага справаводзтва ЦК.

У сучасны момант штат Аддзелу складаецца:

Загадчык Аддзелу, кансультант, машыністка-карэспандэнтка, справавод (ведаючы ангельскую мову), справавод-машыністка.

Аддзел існуе на сродкі, спэцыяльна асыгнаваныя Выканкомам Саюзу Чырвоных Крыжаў і Чырв. Паўмесяцаў СССР.

## Сувязь з арганізацыямі і ўстановамі.

Праца Аддзелу сустракае поўнае садзейнічаньне з боку дзяржаўных органаў.

Паводле пастановы ЦВК ад 2 сакавіка 1929 г., якой Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу прызнана адзінай правамоцнай арганізацыяй у межах БССР на вядзеньне вэтэранскіх спраў у краінах, з якімі няма дыплёматычных і консульскіх зносін— Аддзел мае юрыдычную падставу дабівацца поўнага садзейнічаньня ўсіх дзяржаўных устаноў. Гэтае садзейнічаньне поўнасьцю аказваецца.

У штодзеннай працы Аддзел мае сталую сувязь з Нар. Камісарыятам Юстыцыі, Нар. Кам. Унутраных Спраў і Дзяржбанкам. Нар. Кам. Юстыцыі БССР легалізуе ўсе дакумэнты, якія выконваюцца гр-мі ў Народных Судох і Натар. Канторах.

У парадку садзейнічаньня Нар. Кам. Юстыцыі абавязаў Калегію абаронцаў рабіць бясплатную юрыдычную дапамогу гр-нам, якія маюць прэтэнзыі да Амэрыканскага Вэтэранскага Бюро, а на Натарыяльныя Канторы ўскладзены абавязак (у мэтах барацьбы з прыватнымі хадатаямі) адбіраць падпіскі ад ўсіх гр-н, якія ўзьнімаюць справы праз прыватных асоб аб тым, што ім вядома аб дзейнасьці Чырвонага Крыжу ў гэтай галіне. Дзякуючы гэтаму мерапрыемству ў апошнія месяцы зусім спыніліся перадачы спраў прыватным асобам.

Нар. Кам. Унутраных Спраў легалізуе ўсе дакумэнты, якія выдаюцца мясцовымі органамі ўлады і Загсамі. Акрамя таго, паводле пастановы ЦВК, на НКУС ускладзены абавязак адшуканьня патрэбных грамадзян па заданьням Цэнтральнага К-ту.

Гэткі парадак сумесна з аб'явамі ў газэтах і адшуканьнямі па лініі Чырвонага Крыжу, амаль поўнасьцю гарантуе адшуканьне патрэбных асоб на тэрыторыі БССР.

Сувязь з Дзяржбанкам ідзе ў галіне вучоту паступленьня грошай і прад'яўленьня яму чэкаў, якія атрымліваюцца гр-намі з-за мяжы. Аснова ўсёй працы ў тым, каб чэкі былі прад'яўлены ў Дзяржбанк. Ня гледзячы на тое, што гэта адзіны легальны шлях атрымаць грошы, усё-ж Аддзелам зарэгістравана некалькі выпадкаў, калі чэкі ў Дзяржбанк не прад'яўляюцца.

Акрамя таго, Дзяржбанк бесьперашкодна выконвае патрэбныя Аддзелу дакумэнты на ангельскай мове (ЦК ня мае машынкі з лацінскім шрыфтам).

## Перашкоды і недахопы ў працы Аддзелу.

1) Справаводзтва Аддзелу яшчэ да гэтай пары не ўрэгулявана. Заявы гр-н аб адшуканьні не накіраваны з 10 красавіка. З прычыны зьмены працаўнікоў і стыхійнага росту спраў, картатэка, неабходная пасьля выдзяленьня справаводзтва з агульнай канцэлярыі ЦК, да гэтае пары не заведзена, і справы Аддзелу праходзяць фактычна без рэгістрацыі.

2) Удзел арганізацый Чырвонага Крыжу ў працы па замежнай дапамозе да гэтай пары не аформлены. Тыя спробы, якія былі зроблены ў мерах уцягненьня акруговых арганізацый у працу—трэба прызнаць няўдалымі.

Асабліва паказальным у гэтым напрамку зьяўляецца Аршанскі Акруговы К-т Чырвонага Крыжу: падрабязная прапанова, накіраваная Акруговаму К-ту 4/III хуткім лістам—засталася без адказу. Тэлеграма 15/III мела ня большы вынік. 28/III, пры асабістым выязьдзе ў Воршу, высьветлена, што па справе ня зроблена нічога, а старшыня Акруговага Камітэту нават і ня ведаў аб справе.

Другой Арганізацыяй Чырвонага Крыжу, якая не адстае ад Воршы, зьяўляецца Слуцкі Раённы К-т, ад якога ня маецца адказу па тэрміновай справе з 13 сакавіка.

Акрамя органаў Чырвонага Крыжу, такія-ж нядбайныя адносіны да справы зарэгістраваны з боку Сьвяцілавіцкага с/савету, Гомельскай акругі. Справа Сьвяцілавіцкага с/савету перадана Н.К. РСІ.

Агулам кажучы, адносіны чырвона-крыжных арганізацый да выкананьня тых ці іншых даручэньняў—горшыя, чымся іншых арганізацый, як па тэрміновасьці, таксама і па якасьці

выкананьня. Пленуму ЦК трэба прынцыпова вырашыць пытаньне аб удзеле мясцовых арганізацый Чырвонага Крыжу ў працы па замежнай дапамозе.

## Выдавецка-Кнігарны Аддзел.

За апошнія гады пачынае разьвіваць сваю працу Выдавецка-Кнігарны Аддзел Цэнтральнага Камітэта і яго Кнігарная База. Аддзел забясьпечвае пэрыфэрыю літаратурай і выдае брашуры, плякаты санітарна-асьветнага характару. Пералік выданьняў Чырвонага Крыжу, прыведзены ніжэй.

Неабходна адзначыць, што Акругі ня зусім, як відаць, яшчэ ацанілі значэньне Базы і мала ідуць ёй на дапамогу. Вось, к прыкладу, фактычныя даныя па пакупцы літаратуры Акругамі праз Базу. Так, Менскі Акруговы Камітэт за пэрыяд з 1-га кастрычніка 1928 г. па 1 красавіка 1929 г. ўзяў літаратуры усяго на 247 р., з якіх па першай дапамозе толькі на 37 р. Гэткі-ж малюнак назіраецца і па ўсіх іншых Акругах БССР. Акрамя таго, назіраюцца надта нядбайныя адносіны па аплаце даўгоў. Маецца масавая запазычанасьць Базе, і Акругі ня прымаюць ніякіх мер да яе ліквідацыі. Са ўсімі гэтымі ненармальнасьцямі трэба раз назаўсёды скончыць і ўзяць рашучы курс на падтрымку Базы ўсімі мясцовымі сіламі, бо пры правільна пастаўленай у ёй працы мы зможам даць тую літаратуру, якая гэтак патрэбна нашым ячэйкам і чырвонакрыжнай масе.

## Праца Прэзыдыуму ЦК.

За апошні час адбылося 17 паседжаньняў Прэзыдыуму, на якіх былі разгледжаны 117 пытаньняў: арганізацыйных—52, санітарнай абароны—10, мэдычных—7, грамадзкіх—16, міжнародных—15, выдавецкіх—12 і розных—32. З найбольш важных і цікавых пытаньняў, якія стаялі ў Прэзыдыуме, трэба адзначыць, па-першае, пытаньне падрыхтоўкі двох вялікіх кампаній: „Тыдзень Чырвонага Крыжу" і перавыбары Саветаў, якія разглядаліся на цэлым шэрагу паседжаньняў Прэзыдыуму. Быў складзены генэральны плян нашай працы на цэльны год, быў апрацаваны даклад нашаму Ураду—ЦВК БССР аб дзейнасьці Чырвонага Крыжу і распрацаваны Статут.

Мы аказалі пасільную дапамогу дзецям рабочых і сялян Заходняе Беларусі. Мы пасылаем таксама беларускія падручнікі ў Латвію, за што атрымалі адтуль не адну гарачую падзяку.

## Рацыяналізацыя сыстэмы працы Т-ва

Зараз пераходжу да вывадаў, якія я хацеў-бы зрабіць адносна ўсяго сказанага, ці інакш кажучы, да пытаньня аб далейшай рацыяналізацыі ўсёй працы Т-ва зьверху да нізу.

Перад намі прайшла даволі цікавая характарыстыка дзейнасьці Акруговых Камітэтаў; мы азнаёміліся з выкананьнем бюджэту за 27-28 г. г. і ўбачылі, што ва ўсіх адносінах у нас маецца шмат недахопаў. Тыя матар'ялы, якія нам прыходзілася атрымліваць з Акруг для таго, каб зрабіць даклад, мы атрымлівалі несваячасова, матар'ял гэты быў не заўсёды правільны і насіў часам „паталочны" характар. Гэта гаворыць аб тым, што ў нас на мясцох ня ўсё, як кажуць, „благополучно".

Часам пад словам рацыяналізацыі разумеецца адно толькі канцэлярскае спрашчэньне справы. Скарачаецца пісаніна папераў, уводзіцца новая сыстэма рэгістратуры, зьмяняецца ўклад самога жыцьця канцэлярыі, адным словам, праводзіцца цэлы шэраг вельмі патрэбных мерапрыемстваў, але, як кажуць, у адным прыслоўі—„воз и ныне там". Асноўная задача кожнай рацыяналізацыі—зрабіць працу прадукцыйнай не па форме, а па зьместу, дабыць з яе найбольшую колькасьць практычнага эфэкту. На жаль, трэба прызнацца, што гэты важны момант часам праходзіць стараной і ў выніку атрымліваецца „холостой ход", праца ў пустую, бяз прыводных рамнёў. Апарат рацыяналізаваны; усе паперы падшыты ў адно месца, карткі спраў акуратна разложаны па паліцам, але вынікі нас не здавальняюць. Не адчуваецца жыцьця, няма здавальненьня ў працы, апарат гладка, добра ідзе па рацыяналізаваным канцэлярскім рэльсам, але разам з тым плынна, спакойна праходзіць міма жывых пытаньняў, міма жывой рачавістасьці.

Усе гэтыя мысьлі мімаволі прыходзяць у галаву, калі сустракаешся ў штодзеннай практыцы з працай Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу. Мы пішам шмат усялякіх дырэктыў па адрасу Акруговых Камітэтаў, спрабуем растлумачыць ім цэлы шэраг пытаньняў, якія намі прапрацованы і спадзяемся, што ўсё гэта дойдзе да самых нізоў, да ячэек. Але, на жаль, трэба сказаць з поўнай адказнасьцю за свае словы, што гэтага ў большасьці выпадкаў няма. Паперы мэтадычна паступаюць у Акруговыя К-ты, у лепшым выпадку з матэматычнай дакладнасьцю перадрукоўваюцца без належнага апрацоўваньня ў акруговым разрэзе і ляцяць далей на раён. Тут яны пападаюць ня ў менш супакойнае месца—аб'ёмістыя папкі сакратароў раённых К-таў і затым заміраюць. Для іх наступае нічым непарушны спакой.

Увесь гэты нарысаваны мною малюнак не зьяўляецца вынікам фантазыі, ці жаданьнем згусьціць фарбы, а, наадварот, зьяўляецца сапраўдным адбіткам штодзеннай рачавістасьці, здымкам сёняшняга дню. Вось чаму, калі нам прыходзіцца шукаць матар'ял, каб падлічыць вынікі сваёй працы, давядацца—куды мы ідзем, як разьвіваецца ўся наша чырвонакрыжная арганізацыя,—мы на нашы пытаньні атрымліваем з Акруг гробавае маўчаньне, або фармальныя спраўкі аб выкананых заданьнях. Прысылаецца, так званы „потолочный" ма-

тар'ял, які зусім нічога не дае, не характарызуе дынамікі ўсёй працы. Мы пазбаўляемся магчымасьці даведацца, чым дыхае наша арганізацыя, якія ў ёй дасягненьні і недахопы і ня маем магчымасьці праверыць правільнасьць нашага кіраўніцтва. Калі мы захацелі атрымаць матар'ялы аб выніках зімовай кампаніі і аб агульным аналізе дзейнасьці Чырвонага Крыжу, дык атрыманыя з месц даклады далі толькі права сказаць, што жывая праца ў акруговых цэнтрах слабая і што сувязь іх з нізавой пэрыфэрыяй недастатковая. Гэты вывад ня толькі можна зрабіць на падставе пісьмовых матар'ялаў, але ён цалкам пацьвярждаецца і пры асабістым знаёмстве з працай Акруговых Камітэтаў.

Мы ня раз пісалі ў артыкулах, выносілі прыгожыя рэзалюцыі, гаварылі на адказных паседжаньнях аб тэй вялікай ролі, якую мы надаем нашай нізавой арганізацыі. Нам паказвалася, што раённы цэнтр і яго натуральны працяг—ячэйка, ёсьць аснова, стрыжань усёй арганізацыі. Прыймалася ня мала рашэньняў аб узмацненьні нізавой сеці, ня мала гаварылася прыгожых фраз аб тым, як гэтае ўзмацненьне ажыцьцявіць. Але калі справа дакраналася жыцьця і калі трэба было шчыльна падыйсьці да гэтага ўзмацненьня на практыцы, дык ніякіх праўдзівых, рэальных крокаў не рабілася. Усё канчалася адным—дайце больш штату, больш платных працаўнікоў і ўсё будзе добра. Такі спрошчаны падыход да гэтага складанага пытаньня наўрад ці можа быць карысным. Справа ня ў тым, даць ці ня даць аднаго або двох дадатковых працаўнікоў у акруговы апарат, а трэба глыбей паглядзець на прычыну адмоўнага становішча. І калі так, па сур'ёзнаму, крытычна падыйсьці да вырашэньня задачы, дык мы адразу наткнемся і на здавальняючае яе рашэньне.

Прычына, чаму не працуюць Раённыя К-ты, знаходзіцца ў тым, што яны не атрымліваюць жывога інструктажу ад акругі, што акруга вельмі часта аб іх забывае і мала цікавіцца, што робіцца на раёне. Акруговыя работнікі Чырвонага Крыжу рэдка пападаюць у свае нізавыя раённыя ячэйкі і ўся справа абмяжоўваецца выпадковым наведваньнем раённага К-ту работнікам аховы здароўя, які сумяшчае працу і па Чырвонаму Крыжу. Нават такая важная функцыя Акруговага К-ту, як абслугоўваньне раённых конфэрэнцый і тая выпадае з поля ўвагі акругі. Мне прыходзілася наглядаць, як шэраг раённых конфэрэнцый быў пакінуты ўласнай ініцыятыве і як члены Чырвонага Крыжу, сабраўшыся з мядзьведжых кутоў адзін раз у год, ня маюць магчымасьці атрымаць крытыкі сваёй працы і ўказаньняў ад старшых таварышоў.

Цяпер будзе зразумелым, чаму ідэі Чырвонага Крыжу застаюцца не растлумачанымі. Шмат хто забываецца аб выключна важнай ролі нашай арганізацыі ў мірны час, як вялікай культурнай сілы, якая нясе з сабою здаровую працу і здаровы быт для рабочых і сялян. Значэньне Чырвонага

Крыжу як правадніка культурнай рэвалюцыі, асабліва на вёсцы, нікім не падкрэсьліваецца і адсюль пачынаецца ў раённых працаўнікоў расчараваньне, нездавальненьне ў сваёй дзейнасьці. Зразумела, што аб якім-небудзь падтрыманьні дысцыпліны ня можа быць і мовы: сяброўскія ўзносы ня зьбіраюцца праз цэлыя гады, вучот ліку сяброў не вядзецца і рост арганізацыі такім чынам не выяўляецца.

Усё гэта прымушае нас зьвярнуць увагу на кіраўнічую, інструктарскую працу Акруговых Камітэтаў у напрамку раёнаў і паклапаціцца аб тым, каб яе рацыяналізаваць.

У нас усіх на вочах ёсьць вельмі цікавы прыклад сыстэмы кіраўніцтва нізавымі арганізацыямі, які практыкуецца ў камітэтах сялянскай узаемадапамогі. Там няма прамежнага зьвяна— Акруговага К-ту, а проста з Цэнтральнага К-ту ўстаноўлена непасрэдная сувязь з раёнамі. Раённыя К-ты атрымліваюць дырэктывы проста ад ЦК і апошні цалкам іх абслугоўвае. Паглядзім уважліва, што мы пры гэткай сыстэме выгадваем і якую перавагу атрымліваем.

Першае, аб чым трэба дагаварыцца, гэта—як мы разумеем рэформу акруговай сыстэмы кіраваньня? Пытаньне ня ў тым, каб зьнішчыць выбарны орган—Пленум Акруговага К-ту, а ў тым, каб спыніць існаваньне платнага апарату. Мне здаецца, што калі мы ліквідуем платных працаўнікоў акруг і за лік іх узмацнім раёны—дык будзе больш рэальнай карысьці. Я думаю, што калі на раёне, у буйных вучастках, будзе платны работнік, да ў дадатак да гэтага добры інструктаж у ЦК—дык гэта дасьць мажлівасьць часьцей працаўнікам ЦК выяжджаць непасрэдна на месцы і там жывым словам даваць тыя ўказаньні, якія цяпер затрымліваюцца ў акруговых канцэлярыях.

Мяне запытаюцца,—а як-жа будзе кіравацца горад? Адказ ясны: для гэтага патрэбен Гарадзкі Камітэт, які і будзе займацца гарадзкімі справамі.

Запытаньне,—ці можа ЦК добра абслугоўваць усе 102 раёны, ці не? Вось асноўнае пытаньне, якое, зразумела, павінна нас цікавіць. Але на гэта можна адказаць контр-пытаньнем: а чаму гэта можа быць яму не пад сілу? Мы-ж давалі гэтыя функцыі Акруговаму К-ту і ў яго на руках было па некалькі дзясяткаў раённых К-таў. Праўда, вопыт абслугоўваньня быў вельмі кепскі, але гэта якраз тлумачылася іменна тым, што склад самых інструктароў быў вельмі слабы па якасьці. Сканцэнтраваўшы ў ЦК 2—3-х моцных работнікаў, якія прайшлі чырвона-крыжную школу на мясцовай працы і якія будуць атрымліваць сталую „зарадку“ ад самога ЦК і дастатковую колькасьць усялякіх падручнікаў,—мы, бязумоўна, лепш здолеем устанавіць непасрэдную сувязь з месцамі, якая ў нас у сучасны момант зусім выпадае і адсутнічае.

Ці ліквідуюцца Пленумы Акруговых К-таў? Па мойму, гэтага ня трэба рабіць. Пленумы, складзеныя з Старшынь

Раённых К-таў, плюс некаторая колькасьць работнікаў ячэек, даюць той дзелавы калялктыў, які зьбіраючыся пэрыядычна, будзе абменьвацца вопытам і корэктаваць сваю працу ў разрэзе пастаноў дырэктыўных органаў і мясцовых органаў улады, а таксама і ЦК Чырвонага Крыжу.

Органам, працуючым у перапынку паміж Пленумамі, для ўстанаўленьня сталай сувязі з дырэктыўнымі органамі і з мясцовымі Выканкомамі, будзе Гарадзкі Камітэт на правох Раённага К-ту на тэрыторыі акруговага гораду.

Вось каротка тая новая сыстэма, якую я прапаную для шырокага абгаварэньня. Рэзюмуючы я паўтараю. Раённыя Камітэты кіруюцца непасрэдна ЦК, шляхам арганізаванага сталага жывога інструктажу; платны апарат Акруговых К-таў ліквідуецца, застаюцца толькі рэгулярна склікаемыя пленумы акругкомаў; у перапынках паміж Пленумамі бягучую работу па ўзгадненьні шэрагу пытаньняў з дырэктыўнымі і мясцовымі органамі ўлады выконвае гарадзкі камітэт. Задача пленумаў—абмен вопытам і корэкцыя дырэктыў ЦК ва ўмовах мясцовай працы. Раённы Камітэт атрымлівае платнага працоўніка ня з поўнай стаўкай, а сумяшчаючага работу Чырвонага Крыжу з якойнебудзь іншай работай.

Вось, у аснове, што трэба абгаварыць і што трэба зрабіць, каб атрымаць праўдзіва жывую работу, а не канцэлярскую адпіску.

**Аб пяцігадовым пляне.**

Я лічу, што паколькі ў нас ёсьць ужо складзены плян пяцігадовага разьвіцьця нашае народнае гаспадаркі і культуры па лініі нашага ўраду, нам трэба таксама зьвярнуць увагу на складаньне генэральнага пляну працы Чырвонага Крыжу. Неабходна, каб у далейшым, прыкладна, на пяцігодку быў складзены плян дзейнасьці Т-ва Чырвонага Крыжу; нам неабходна паставіць тыя перспэктывы, тую генэральную лінію, па якой будзе разгортвацца наша дзейнасьць. Пытаньні адносна будаўніцтва па санітарнай абароне, па санітарнаму аздараўленьню працы і быту, будаўніцтва студняў і лазьняў,—усё гэта павінна быць у пляне Чырвонага Крыжу.

Нарэшце, таварышы, склікаьне нашага пленуму. Я лічу, што нам трэба практыкаваць склікаьне Пленуму ня толькі ў Менску, але і ў іншых гарадох нашай Рэспублікі. Я лічу мэтазгодным склікаць чарговы Пленум у Віцебску і там разгарнуць яго шырэй, з большым прыцягненьнем мясцовых ячэек.

Спадзяюся, што дзелавая крытыка, якая разгарнецца па закранутым мною пытаньням, дапаможа Ц. К. і ўсім нам яшчэ мацней павесьці нашу культурную працу на карысьць рабочых і сялян Савецкай Беларусі, на карысьць сацыялістычнага будаўніцтва нашай Рэспублікі.

**М. Барсукоў.**

# Пашырайма санасьветную літаратуру!

Нашае Таварыства, як ведама, мае вельмі важныя і карысныя заданьні. Што можа быць больш прыемнага для нашага грамадзкага працаўніка, як стварыць здаровыя варункі жыцьця вёскі, пазбавіць яе ад бруду, ад санітарнае цемнаты, ад забабон,—вывесьці працоўнае сялянства з тых хваробаў і бядоты, у якіх яно часта знаходзіцца, дзякуючы толькі сваёй несьвядомасьці? Які больш пачэсны можа быць грамадзкі абавязак, як палепшыць варункі працы рабочага на фабрыцы, на прадпрыемстве і дома—шляхам арганізацыі пункту першае дапамогі, шляхам устройства вэнтыляцыі, умывальнікаў, душаў, зьнішчэньня пылу і г. д.

Мы ўсе ведаем гэтыя задачы і шмат якія з іх праводзім у жыцьцё. Аднак, вельмі часта мы шмат чаго і не праводзім, і пры гэтым ня столькі таму, што ня ведаем патрэбы, а таму, што сваімі сіламі, сваімі, як кажуць, рукамі зрабіць гэтага ня можам. Проста не хапае магчымасьці быць усюды і ўсё, што трэба зрабіць. Вось тут-то і выстыркае патрэба ўцягваць у свае рады як мага больш рабочых і сялян,—і ня толькі ўцягваць у іх нашыя чырвона-крыжныя рады, але разам з тым актыўна асьвятляць іх, санітарна ўсьведамляць. Калі наш чырвона-крыжны работнік усьвядоміць масу, як яна павінна жыць здарова і чыста і што яна для гэтага павінна рабіць,—дык задача ўжо напалову выканана. У санітарна-сьвядомую вёску, або на санітарна-асьвечанае прадпрыемства яму ўжо ня прыдзецца ехаць, каб уласнымі рукамі закладаць новую студню, рабіць фортку і інш. Працоўныя самі зробяць усё гэта, калі ўсьвядомяць, што рабіць гэта трэба для іхняй-жа карысьці.

Адсюль вынікае абавязак шырокага распаўсюджаньня санасьветнай літаратуры. Санасьветная кніжка, брашурка,—вялікая рэч. Ня ўсюды чырвона-крыжны работнік можа праехаць, ня ўсюды ён можа выступіць з жывым словам прапаганды і інструктажа. Тут-то вось кніга і брашура робіць усё належнае. Закінуў пачку санасьветнай літаратуры ў глухую вёску,—усё роўна, асабіста, ці праз пошту,—і справа зроблена: яна пойдзе па руках, пойдзе па хатах і, будзьце пэўны, прынясе шмат рэальнай карысьці.

Цэнтральны Камітэт нашага Таварыства, маючы на ўвазе падобнае пашырэньне санасьветнае літаратуры, заснаваў пры сабе спэцыяльны аддзел.

У Беларускім Т-ве Чырвонага Крыжу здаўна адчувалася патрэба ў арганізацыі ўласнага выдавецтва і адпаведнай кнігарнай базы. Выдавецкая чыннасьць ЦК у пэрыяд 1922-24 году зусім адсутнічала. Толькі ў 1925 годзе была выдана адна невялічкая брашурка „Беларускі Чырвоны Крыж“ (на расійскай мове, стар. 15), і Статут Т-ва. З 1926 году лік выданьняў

ЦК пачынае ўзрастаць,—як па назвам выданьняў, так і па ліку старонак.

Асаблівае значэньне ў гэтым сэнсе набыў „Бюлетэнь“ Т-ва, які зьявіўся яго сталым пэрыядычным органам і органам сувязі Т-ва з іншымі чырвона-крыжнымі арганізацыямі. З моманту свайго выданьня (верасень 1926 г.) ён высылаўся па ўсяму Савецкаму Саюзу і за межы—у Вільню, Латвію, Літву, Жэнэву і г. д. У выданьнях Заходняй Беларусі („Віленскі Беларускі Каляндар“), у беларускіх выданьнях у Рызе, робяцца сыстэматычныя спасыланьні на наш „Бюлетэнь“. Па свайму зьместу і вонкаваму выгляду „Бюлетэнь“ займае трэцяе месца сярод савецкіх (пасьля УЧХ і РОКК) і адно з першых месц сярод заходня-эўропэйскіх чырвона-крыжных пэрыядычных выданьняў. Плякат Беларускага Т-ва прызнаны на адным з Зьездаў Выканкому ў Маскве таксама адным з лепшых.

Што датыча папулярных брашур па сан.-асьвеце (будаўніцтва лазьняў і студняў, памяткі і інш.)—дык гэтыя выданьні былі першымі ў сваім родзе і знайшлі прыхільны водгук з боку іншых савецкіх Чырвоных Крыжоў.

Апрача ўласных выданьняў, ЦК яшчэ з 1926 г. праводзіў снабжэньне санасьветнай літаратурай праз „Кіоск“ Чырвонага Крыжу ў Менску. Аднак гэтая ўстанова не адпавядала свайму прызначэньню: гэта была звычайная кніжная крамка, якая пры тым мела яшчэ за сабой нездаровую традыцыю ранейшага так зв. „Отдела Распространения“.

Апошняя абставіна доўгі час затрымлівала ня толькі разьвіцьцё кніжнай справы пры ЦК, але і падняцьце самога пытаньня аб гэтым. Усе члены ЦК падазронна ставіліся да самае мысьлі аб арганізацыі якога-б то ня было прадпрыемства, якое магло-б разглядацца, як камэрцыйнае.

Тым ня менш буйнае разьвіцьцё чырвона-крыжнае дзейнасьці наогул, і асабліва Гурткоў Першае Дапамогі, шырокі рост масавых ячэек Таварыства, усьцяж прымушалі ЦК абмяркоўваць пытаньне аб тым, як забясьпечыць гэтыя масавыя органы адпаведнай літаратурай. З боку апошніх усё настойлівей і настойлівей паднімалася гэтая думка,—заснаваньня пры ЦК установы па снабжэньні ўсёй пэрыфэрыі Т-ва належнай чырвона-крыжнай і санасьветнай літаратурай. Урэшце, — на 2-ім Усебеларускім Зьезьдзе 5—7 мая 1928 г. пытаньне аб гэтым выплыла зусім акрэсьлена і на наступным Пленуме ЦК афармілася: было пастаноўлена арганізаваць пры ЦК асобны *Выдавецка-Кнігарны Аддзел.*

У сувязі з гэтым было апрацавана і на паседжаньнях Прэзыдыуму ЦК ад 26-VI-1928 г. і 17-VII-1928 г. зацьверджана асобнае „*Палажэньне*“ аб Выдав.-Кнігарным Аддзеле. Тады-ж быў прыняты яго каштарыс і плян працы. У аснову дзейнасьці Выдавецтва была паложана датацыя ў 5851 р. 63 к.,—з якіх: 2100 руб. на выданьне „Бюлетэню“ ЦК,

2040 руб.—на выданьне сан-асьветнае літаратуры і 1711 р. 63 к.—на выданьне плякатаў, адозваў, значкоў, лёзунгаў і інш. дробных выданьняў. Загадваньне Аддзелам было даручана Члену Прэзыдыума ЦК і быў запрошаны тэхнічны супрацоўнік-рахункавод, дзеля таго, што згодна пастановы ЦК бухгальтэрыя Аддзелу была выдзелена з агульнае бухгальтэрыі ЦК. Уся справа павінна была праводзіцца на гаспадарчым разрахунку.

У той час, як у аснову выдавецкай чыннасьці Аддзелу была паложана датацыя ЦК, карыстаючыся якой Аддзел павінен быў выпускаць у сьвет належныя выданьні,—у аснову кнігарнае дзейнасьці Аддзела, г. зн. снабжэньня арганізацый Т-ва кнігамі, была паложана ўмова з „Госмедиздатом". Згодна гэтай умове Выдав.-Кнігарнаму Аддзелу было дадзена гэнэральнае прадстаўніцтва „Госмедиздата" на БССР.

Фактычная праца з кнігай чужога выданьня пачалася ласьне з гэтага моманту, з якога часу Выдавецка-Кнігарны Аддзел мае ў сваім складзе: а) *Выдавецкую частку* і б) *Кнігарную Базу*.

Трэба прызнаць, што выдавецкая дзейнасьць Аддзелу разьвіваецца нармальна. Прадугледжаная па каштарысу 1928-29 г. сума датацыі ў 5850 р. будзе выстарчальнай толькі пры варунку, калі выпушчаныя выданьні хутка разойдуцца; пры выпадку, калі яны ў сваёй рэалізацыі затрымаюцца,—чаго можна баяцца ў сувязі з малай актыўнасьцю ў гэтым напрамку Акруговых Камітэтаў,—будзе патрэбна для заканчэньня намечаных выданьняў дадатковая датацыя прыблізна ў суме 1000 руб. Як відаць з прыведзенага ніжэй пераліку ўжо выпушчаных у бягучым годзе выданьняў і падрыхтаваных да друку, выдавецкі плян Аддзелу праходзіць з перавышэньнем ранейшых плянаў (17 друк. аркушоў). На азначанае павялічэньне і патрэбна будзе дадатковая датацыя.

Трэба аднак зазначыць, што датацыя ЦК не зьяўляецца датацыяй беззваротнай: выдавецкая дзейнасьць Аддзелу пастаўлена ня ў форме бясплатнай раздачы сан.літаратуры і „Бюлетэню", але ў форме продажы ўласных выданьняў. Праўда, продаж гэты не заўсёды ідзе з прыбыткам,—прыкладам „Бюлетэнь" ЦК выдаецца з дэфіцытам: у той час, як самому выдавецтву кожны нумар „Бюлетэню" каштуе каля 300—400 руб.—зварочваецца шляхам продажы толькі каля 150 р.

З распаўсюджаньнем „Бюлетэня" справа стаіць яшчэ далёка ад здавальненьня: Акругі не „раскачаліся" яшчэ з падпіскай. Дагэтуль няма нават дакладных даных аб ліку падпіскі,—у сувязі з чым тыраж „Бюлетэню" пакуль не павялічваецца (1500 экз.). Дрэнна стаіць справа і з літаратурным удзелам мясцовых арганізацый у „Бюлетэню"—у сувязі з чым немагчымы рэгулярны яго выпуск, і ён запаздывае выхадам.

*Кнігарная база.* Дзейнасьць Кнігарнае Базы пачалася з моманту атрыманьня першае партыі літаратуры ад „Госмедиздата“. Ніякага зваротнага капіталу для сваей чыннасьці Кнігарная база ад ЦК не атрымала,—і пачала весьці сваю працу на асновах камісіі. Трэба зазначыць, што гандаль кнігай—рэч вельмі спэцыфічная і як агульнае правіла—не рэнтабельная. Разам з тым кніжная справа вельмі церпіць на так зв. „затоваривание“ шляхам выхаду кніг у макулатуру. Усе гэтыя абставіны, разам з не забытым яшчэ няспрыяйным уражаньнем ад ранейшых прадпрыемстваў Т-ва, прымусілі Базу разьвіваць свае аперацыі з першага дню вельмі асьцярожна.

Галоўнай асновай і пэрспэктывай ў праграме Кнігарнае Базы былі асыгнаваньні на набыцьцё санасьветнай літаратуры з боку Акруговых і Раённых Камітэтаў,—галоўным чынам для Гурткоў і Дружын. Дзякуючы дэцэнтралізацыі бюджэту, на гэтую справу па каштарысу Т-в было прадугледжана ў бягучым 1928—29 годзе салідная сума, каля 12000 р. Апрача таго, была надзея, што органы Наркамата Аховы Здароўя таксама пойдуць набываць патрэбную літаратуру праз Базу ЦК.

Аднак разьвіцьцё справы паказала, што плян у гэтым напрамку далёка не зьдзяйсьняецца. З агульнай сумы асыгнаваньняў на набыцьцё літаратуры, мясцовыя арганізацыі, г. зн. у першую чаргу Акруговыя Камітэты набылі праз Базу літаратуры да 1 красавіка 1929 г. толькі на 2856 р. 14 к. Калі прыняць пад увагу ўсю продаж літаратуры з Базы, дык для Акруг выйдзе толькі каля 40% гэтае продажы. 60% набылі розныя арганізацыі, як то—бальніцы, аптэкакіраўніцтвы, вайсковыя часткі, мэд-пункты і г. д.

Чым тлумачыцца гэтае зьявішча? Яго можна тлумачыць падвойна: 1) вельмі слабай энэргіяй Акруговых Камітэтаў, якія ня выявілі належнай ініцыятывы і зацікаўленасьці, каб справу пашырэньня сан-літаратуры паставіць у сваёй акрузе на належную вышыню і 2) тэхнічнай недасканаласьцю самае Базы, што выражалася, галоўным чынам, у нястачы на ёй патрэбнай для Акруг літаратуры. Што да апошняга пытаньня, дык трэба згадзіцца, што ў некаторых выпадках База запраўды ня мела ў сябе таго, што патрабавалі Акругі. Гэта датычыць, у першую чаргу, літаратуры па першай дапамозе. Але трэба зазначыць, што недастача гэтая ня столькі залежала ад самае Базы, сколькі ад „Госмедиздата“ і наогул ад цэнтральных выдавецтваў: колёсальна разьвіты попыт на літаратуру гэтага роду з боку савецкіх Крыжоў і Паўмесяцаў увесь час ставіў іх перад фактам недахопу гэтага роду дапаможнай літаратуры. У шмат якіх выпадках, цэнтральныя выдавецтвы адмаўлялі Базе ў выкананьні яе заказаў толькі таму, што заказных кніг ня было на рынку,—яны былі распраданы. Сваю ролю адыгралі і перарывы ў тэхнічнай працы на Базе ў сувязі са зьменай тэх.-працаўнікоў: База не магла належна

паставіць сваю бухгальтэрыю, а бяз гэтага небясьпечна было шырока разьвіваць сваю чыннасьць.

Аднак, галоўная прычына параўнаўча слабога разьвіцьця апэрацый з чужой кнігай заключалася і заключаецца ў тым, што Акруговыя Камітэты (і Раённыя) не адводзяць гэтай справе належнай увагі. Праўда, можна дапусьціць, што частка асыгнаваных па іхнім каштарысам грошы на гэтую мэту пайшла шляхам заказу і закупкі літаратуры мінуючы Базу, але, як відаць са справаздачных ведамасьцяй, асыгнаваньні гэтыя ляжаць бяз руху. На гэтую абставіну трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Яшчэ большую ўвагу трэба зьвярнуць на той факт, што за купленую ў Базы літаратуру Акруговыя К-ты, як агульнае правіла, ня плацяць. Да 1-га красавіка б/ году Акругі выплацілі толькі 3,3% свайго доўгу Базе (92 р. 50 к.). Пры гэтых варунках весьці справу абсалютна немагчыма,—тым больш, што пры існуючай дэцэнтралізацыі бюджэту, Цэнтральны Камітэт ня можа несьці матар'яльнай адказнасьці за пэрыфэрыю.

Нельга думаць, каб рабочая маса і сялянства не патрабавалі санасьветнай літаратуры,—патрабаваньне гэткае ёсьць вялізарнае, а нават, калі-б яго і ня было—яго трэба было-б разьвіваць і актывізаваць. Чырвоны Крыж павінен быць у гэтым застрэльшчыкам. Ячэйкі Т-ва таксама вымагаюць літаратуры,—аб гэтым ёсьць шмат запытаньняў беспасрэдна ў ЦК,—але мясцовыя акруговыя камітэты гэта ня ўлічваюць.

Трэба паставіць заданьнем, каб ячэйкі Чырвонага Крыжу і ўся маса яго сяброў у цэлым зьявілася *органам, праводзячым санасьветную літаратуру ў рабоча-сялянскія гушчы*, на фабрыку і вёску, прычым праводзіць гэтую літаратуру яна павінна не шляхам яе пакупкі за свой кошт, а шляхам *арганізацыі продажы* рабочаму і селяніну. Тыя сродкі, якія ёсьць у нашых арганізацыях на гэтую мэту, павінна скарыстоўваць, як сродкі пераважна *зваротныя*. Трэба, каб Чырвоны Крыж *прывучыў* рабоча-сялянскую масу да санасьветнай кнігі,—у гэтым яго вялізная культурная роль.

Лічбы аб фінансавым становішчы Базы сьведчуць, што на 1 красавіка б/г. яна заключыла свой балянс бездэфіцытна. (Прыбытак у 206 руб. 47 кап.). Гэтая абставіна сьведчыць, што пастаўлена База на нармальныя рэйкі.—Але сума абароту Базы сьведчыць, што маштаб яе дзейнасьці пакуль што яшчэ вельмі слабы. Трэба прыняць пад увагу, што бездэфіцытнае заключэньне балянсу было магчымым толькі пры варунку невялікіх скідак на камісыйны тавар,—ад 10% да 20%; у той самы час пры салідных зваротах База можа даць ад 20%—да 25% скідкі. Паскольку яна не зацікаўлена ў атрыманьні прыбыткаў і падобнае мэты сабе ня мае права ставіць,—яна можа аддаваць мясцовым арганізацыям усю тую

скідку, якую мае сама. Але гэткая пастаноўка магчыма толькі пры тым варунку, калі мясцовыя арганізацыі сканцэнтруюць на Базе ўсе заказы на поўную суму адпаведных асыгнаваньняў.

Апрача паказанага прынцыпу, База кіруецца яшчэ другім прынцыпам,—а ласьне *закрытай* формай снабжэньня літаратурай сваіх арганізацый, а не неакрэсьляна шырокім і адкрытым продажам кнігі на вольны рынак. Гэтым *снабжэнчаскім*, а не гандлёвым падыходам яна адрозьніваецца ад кніжна-гандлёвых прадпрыемстваў звычайнага тыпу. У гэтым напрамку дапускаецца адно выключэньне,—а іменна выдача ўласных выданьняў Аддзелу на камісію як Белдзяржвыдавецтву, так і „Госмедиздату“. Але гэтае выключэньне не мяняе агульнага правіла.

**Аляксандр Цьвікевіч.**

---



Гурток Першай Дапамогі ў в. Халамер'е на Віцебшчыне.

---

**Сьпіс выданьняў ЦК Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу па гадох:**

**1925 г.**—Беларускі Чырвоны Крыж, брашурка 14 стар., тыраж 3000 экз.

**1926 г.**—„Бюлетэнь“ № 1, стар. 38, тыраж 1000 экз.

„ „Бюлетэнь“ № 2—3, стар. 63, тыр. 1000 экз.

„ Як будаваць добрыя студні, стар. 10, тыр. 1000 экз.

„ Лазьні, чаму яны патрэбны і як іх будаваць, стар. 24, тыраж 1000 экз.

**1926 г.**—„Зубы, значэньне іх для чалавека і г. д., стар. 19.
„ Памятка сан-камісіям, стар. 28, тыраж 2000 экз.
„ „Бытовое“, картинки нездорового быта, стар. 25, тыраж 2000 экз.

**1926 г.**—„Першая Ўсебеларуская Конфэрэнцыя Чырвонага Крыжу“, стар. 73, тыраж 1000 экз.

**1927 г.**—„Бюлетэнь“, № 1—2, стар. 50, тыраж 1000 экз.
„ „Бюлетэнь“, № 3—6, стар. 45, тыр. 1500, з ілюстрацыямі.

**1927 г.**—„Бюлетэнь“, № 7—9, стар. 74, тыр. 1500, з ілюстрацыямі.

**1927 г.**—Плякат Белар. Чырвонага Крыжу, тыраж 5000.
„ 12 паштовак—краявідаў Беларусі, тыр. 12×3000.
„ 6 плякатаў „Першай Дапамогі“.

**1928 г.**—„Бюлетэнь“, № 1—3, стар. 48, тыр. 2000, з ілюстрацыямі.

**1928 г.**—„Бюлетэнь“, № 4—7, стар. 60, тыр. 1500, з ілюстрацыямі.

**1928 г.**—„Бюлетэнь“, № 8, стар. 55, тыр. 1500, з ілюстрацыямі.

**1928 г.**—„Справа будзе“—п‘еска, стар. 8., тыр. 500 экз.
„ 2-гі Ўсебеларускі Зьезд Чырвонага Крыжу, стар. 43, тыр. 1250 экз.

**1928 г.**—Отчет о деятельности Белор. О-ва Кр. Креста, стар. 29, тыр. 1000.

**1928 г.**—Плякат Аддзелу Замежных прэтэнзый, тыр. 25000.

**1929 г**—„Бюлетэнь“ № 1—3, стар. 58, тыраж 1500.
„ „Першая дапамога“, стар. 48, тыраж 10.000.
„ Практычныя мерапрыемствы ячэек, стар. 11, тыраж 2000.

**1929 г.**—„Старая і новая вёска“ плякат, тыраж 5000 экз.
„ Памятка чырвонаармейцу, стар. 8, тыраж 10.000.
„ „Статут Белар. Т-ва Чырвонага Крыжу“ (праэкт), стар. 24, тыр. 1000.

### Друкуюцца:

**1929 г.**—Як сельска-гаспадарчаму работніку аберагчы сваё здароўе.

**1929 г.**—Што трэба ведаць сялянцы аб дзіцячых заразьлівых хваробах.

**1929 г.**—Першая дапамога ў сялянскай сям‘і.

### Рыхтуюцца да друку:

**1929 г.**—Програма Гурткоў і Дружын Першай Дапамогі.
„ Кніжка аб Чырвоным Крыжы.
„ Прызначэньне і праца ячэйкі.

**1929** г—4 сэрыі паштовак Чырвонага Крыжу. (Менск, індустрыялізацыя БССР, краявіды БССР і сучаснае беларускае мастацтва).

Апрача таго, Выдавецка-Кнігарны Аддзел выканаў шмат дробных заказаў ЦК, як-то: выпуск марак Т-ва адозваў, лёзунгаў, блянкаў, значкоў, сяброўскіх білетаў і г. д.

---

# Беларускае Дабрадзейнае Таварыства ў Заходняй Беларусі.

Пад назвай—„Беларускае Дабрадзейнае Таварыства“ працуе ў Вільні беларуская грамадзкая арганізацыя, якая ад 1 чэрвеня 1928 г. замяніла сабой ранейшы „Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны“, закладзены ў Вільні яшчэ пад час вайны ў 1915 г.

Найбольш інтэнсыўная і плённая праца Беларускага Дабрадзейнага Т-ва разгарнулася ў апошнія 4—5 гадоў.

Дзеля таго, каб азнаёміцца з дзейнасьцю Т-ва, неабходна коратка абрысаваць тую палітычную атмосфэру, якая склалася ў апошнія часы ў Польшчы і на фоне якой працавала Беларускае Дабрадзейнае Таварыства.

Як ведама, польскі ўрад наогул заўсёды варожа адносіўся да ўсіх незалежных беларускіх арганізацый, калі іх ня можна было выкарыстаць у сваіх палітычных відах: нясупынны езуіцкі падкоп, перашкоды, гвалты з боку ўраду—былі звычайнымі зьявішчамі ў жыцьці беларускіх радыкальных арганізацый. Але сітуацыя склалася яшчэ больш цяжкая, калі ўрад прыступіў да *адкрытага наступленьня*. Гэтае наступленьне пачалося скандальным для польскае ўлады разгромам Грамады, калі некалькі сот людзей было арыштавана, пасаджана ў вастрог і засуджана на доўгія гады катаржнай турмы. З гэтага часу праца становіцца асабліва цяжкай. Яна стала цяжкай ня толькі таму, што палітычная атмасфэра згусьцілася, але і таму, што Беларускае Дабрадзейнае Таварыства пазбавілася матар‘яльнага падтрыманьня пасольскага клюбу Грамады, які стала памагаў Т-ву. Тады Т-ва засталося толькі з уласнай ініцыятывай, бяз грошы. Трэба было наладжваць усялякія зборы, вечарыны і г. д. Але ўсяго гэтага не хапала для ўтрыманьня ўстаноў Т-ва.

Шукаючы выхаду з гэтай цяжкай сітуацыі, Т-ва зьвярнулася ў Беларускі Чырвоны Крыж у Менску з просьбай аб дапамозе. Беларускі Чырвоны Крыж адчуў патрэбу і своечасова прышоў з матар‘яльным падтрыманьнем; фактычна Т-ва тады стаяла напярэдадні ліквідацыі сваіх арганізацый.

Разам з труднасьцямі матар‘яльнага характару Т-ва напатыкала і труднасьці палітычнага парадку. Справа ў тым, што,

разграміўшы Грамаду, польскі ўрад прыступіў да апанаваньня беларускімі радыкальнымі арганізацыямі. Непасрэднага разгрому ўрад не хацеў рабіць, бо бачыў на прыкладзе Грамады што гэткая атака не дае пажаданых вынікаў. І тады пачынаецца, так званы *„пэрыяд санацыі“:* з аднаго боку, ужываюцца тэрор і рэпрэсіі, а з другога—даюцца абяцаньні.

Санацыйны пэрыяд пачаўся з славутнага звезду ў Навагрудку, калі былі ўстаноўлены асноўныя прынцыпы і тактыка барацьбы з беларускім нацыянальна-вызвольным рухам, шляхам камбінацыі „палкі і цукеркі“. Вось у гэткай атмосфэры правакацыі і рэпрэсій і прыходзілася працаваць Беларускаму Дабрадзейнаму Т-ву.

Першую спробу ўдараў санацыйнай палітыкі адчула на сабе Т-ва Бел. Школы, масавая, а дзеля гэтага найбольш небясьпечная для польскай улады,—культурная, беларуская арганізацыя, якая хоць і была разгромлена, але не апанавана. Таму-ж наскоку „санатараў“ падпалі і іншыя беларускія радыкальныя арганізацыі, у тым ліку і Бел. Дабрадзейнае Т-ва, якое лягчэй было апанаваць дзеля таго, што яно ня было масавай арганізацыяй. Аднак апанаваньне Т-ва санацыей пры помачы польскага фашызму не азначае, што беларуская грамадзкасьць ня можа скарыстаць дапамогу, якую робіць Т-ва і скарыстаць яе нават з яшчэ большымі вынікамі.

Пераходзячы да разгляду самой дзейнасьці Беларускага Дабрадзейнага Т-ва (раней Камітэту), трэба сказаць, што галоўнейшаю задачаю яго было ўтрыманьне інтэрнату пры Віленскай беларускай гімназіі і дапамога інтэрнатам пры Радашкоўскай і Клецкай беларускіх гімназіях. Інтэрнаты гэтыя ўкамплектоўваліся найбольш здольнымі дзяцьмі бяднейшых рабочых і сялян Зах. Беларусі. Выявіць патрэбны з моладзі элемэнт Т-ва магло пры помачы цэлай сеткі гурткоў Т-ва Бел. Школы на правінцыі, дзе быў цэлы рад грамадзкіх працаўнікоў, якія добра разьбіраліся ў сацыяльных і нацыянальных пытаньнях. Падабраныя гэткім чынам дзеці ўтрымоўваліся ў інтэрнатах, пры гімназіі, дзе за раз атрымлівалі выхаваньне і адукацыю. Наколькі гэтыя інтэрнаты мелі вялікае значэньне, сьведчаць хаця-б тыя падзеі ў мурах Віленскай беларускай гімназіі апошнім часам, аб якіх даволі пісалася ў савецкіх газэтах. Вучнёўская моладзь, якая ўпітала ў сябе ідэі правоў працоўнага народу, якая аказалася вельмі чуткай да тых зьмен, якія адбыліся ў Зах. Беларусі (санацыя), гэтая моладзь ня здрадзіла тым прынцыпам, у якія яна верыла, але гэраічна змагалася супроць угоды з польскім фашызмам, не баючыся ні звальненьня з гімназіі, ні турмы. І хоць цяпер інтэрнат гэты разагнаны і вучні многія пазвальняны з гімназіі, аднак сьвяты абавязак кожнага матар'яльна падтрымаць гэтыя арганізацыі, каб ізноў там выхоўваліся сьвядомыя грамадзяне, у якіх цяпер асаблівая патрэба ў Зах. Беларусі.

Трэба ведаць, што матар'яльных магчымасьцяй беларускія дабрадзейныя арганізацыі на Захадзе не маюць: яны абапіраюцца на бяднейшыя слаі насельніцтва, на беларускіх незаможных сялян і рабочых, а польскі ўрад не дае магчымасьці наладзіць сыстэматычны збор афяраў на грамадзкую справу. (Ды й цяжка рабочаму і бедняку-селяніну, адрываючы кавалак хлеба ад сваёй сям'і, аддаваць яго на грамадзкую справу).

Ня трэба аднак думаць, што Т-ва выключна жыло на сродкі, пасыланыя з Бел. Чырвонага Крыжу. Рабіліся высілкі здабываньня сродкаў уласнымі сіламі, якія давалі пэўныя вынікі: наладжваліся вечарыны, рабіліся зборы і г. д. Як прыклад маральнага значэньня гэтых збораў, можна прывесьці пісьмо бел. вучняў адной пачатковай польскай школы з Лідчыны, у якім вучні-беларусы, пасылаючы сваю невялікую калектыўную афяру на інтэрнат пры Віленскай бел. гімназіі, пісалі, што яны афяроўваюць свае грошы інтэрнату і гімназіі, бо ведаюць, што ў іх рыхтуюцца барацьбіты за справу. Былі афяры ад палітэьняволеных з польскіх турмаў, як, напрыклад, ад беларускіх грамадаўскіх паслоў і інш. Але зразумела, што ўсе гэтыя афяры мелі хутчэй маральнае значэньне, бо гэта была капля ў моры і на іх утрымаць установы Т-ва ня было магчымасьці.

Праца Т-ва мае вялікае і маральнае і практычнае значэньне. Разам з тым дапамога, якую робіць Зах. Беларусі, Бел. Чырвонага Крыжу ня ёсьць звычайная філянтропія, а ёсьць помач барацьбітом, якія змагаюцца за лепшую долю свайго прыгнечанага народу. Дапамога гэтая цяпер, у часы чорнай фашыстаўскай рэакцыі польскага ўраду, асабліва патрэбна. Гэтая помач магла-бы выявіцца дваяка: у матар'яльным і маральным падтрыманьні. Найлепшым відам матар'яльнай помачы была-б пасылка грашовай дапамогі. Гэта дало-б магчымасьць практычна падыйсьці да арганізацыі ўтрыманьня і выхаваньня дзяцей бяднейшых сялян і рабочых Заходняй Беларусі. Далей, значэньне мела-б пасылка ў Заходнюю Беларусь кніжак. У Заходняй Беларусі вялікая патрэба ў беларускіх падручніках і наогул у беларускай кніжцы. Выдавецтва там надзвычайна слабае, няма грошы на друкаваньне. Пасылка кніжак, з аднаго боку, часткова заспакойвала-б і існуючы там культурны голад, а з другога боку—гэтыя кніжкі былі-б для тамтэйшага беларускага грамадзянства сымболем сувязі з Усходам.

У Зах. Беларусі ўсё прысланае адсюль лічыцца бадай што рэліквіей. Так, напрыклад, прысланыя з Менску летась плякаты: „Як трэба жыць, каб здаровым быць“,—мелі вялікі посьпех, так што людзі з правінцыі на расхват іх бралі і потым можна было бачыць гэтыя плякаты вывешанымі на пачэсных мясцох у памяшчэньнях гурткоў Т-ва Бел. Школы. Кожная пасланая кніжка сьведчыць аб культурным росьце БССР і дае магчымасьць разьбірацца рабочаму і селяніну ў Зах. Беларусі,

як жыве БССР. Па цэнзурным умовам, ясная справа, могуць быць прапушчаны толькі кніжкі апалітычныя, але і яны будуць мець вялікае значэньне, паскольki будуць знаёміць рабочага і селяніна Зах. Беларусі з магутным уздымам культуры і эканомікі ў БССР, і дзеля гэтага вельмі добра было-б калі-б Бел. Чырвоны Крыж пастанавіў 10 проц. выдаваных кніжак і брашур перасылаць у Зах. Беларусь.

Далей надзвычайна важнай справай зьяўляецца ладжаньне вечарын на карысьць Зах. Беларусі, ня толькі ў сэнсе матар'яльных збораў, якія даюць гэтыя вечарыны, але і ў тым сэнсе, што гэтыя вечарыны аказываюць вялікае маральнае падтрыманьне людзям, працуючым у Зах. Беларусі Працаўнікі гэтыя пачынаюць адчуваць сябе не адзінокімі, пераконваюцца, што хтосьці ёсьць, хто аб іх клапоціцца і ў крытычны момант можа іх падтрымаць. Для прыкладу можна ўказаць на тое ўражаньне, якое зрабіла вечарына на карысьць Зах. Беларусі ў 1928 г., калі Чырвоны Крыж прыслаў у Зах. Беларусь афішы, з якой было відаць, што ўдзел у вечары прыймалі лепшыя мастацкія беларускія сілы, беларускія пісьменьнікі і г. д. Уражаньне было надзвычайнае, бо абвестка гэтая наяўна ўказывала вялізарны кантраст паміж прыгнечаным становішчам працоўнага беларуса пад Польшчай і становішчам яго ў БССР, дзе жыцьцё ідзе шпаркім крокам наперад. З аднаго боку ўбогасьць, прыгнечанасьць, з другога—магутны ўздым, росквіт.

Толькі пры таварыскай дапамозе і пры маральным падтрыманьні цэнтра беларускай дзяржаўнасьці—Менску магчыма разьвіцьцё грамадзкай справы і выхаваньне лепшых сыноў працоўнага народу ў Зах. Беларусі.

Зах. Беларусь заўсёды з верай і надзеяй глядзела і будзе глядзець на сваіх братоў у БССР, якія памятуюць аб патрэбах рабочых і сялян на Захадзе.

Б. Старшыня Беларускага Камітэту Помачы пацярпеўшым ад вайны і б. Віцэ-Старшыня Беларускага Дабрадзейнага Таварыства І. Савіцкі.

---

# На мясцох.

## Масавая праца.

*(Круцікаўская ячэйка, Полаччына).*

У гадавым пляне працы мы паставілі пункт, каб, апрача агульных сходаў, праводзіць групавыя сходы ў тых вёсках, дзе маецца некалькі сяброў Чырвонага Крыжу. Запрашаем сяброў з суседніх вёсак і сялянства. На гэтых сходах несяброў бывае столькі, колькі і сяброў, а нават і больш. Дзякуючы гэтым сходам, мы ўжо маем 146 сяброў (на 1/I—29 г. было 83).

На сходзе ставяцца даклады на санітарныя тэмы. У абгаварэньне ўцягваюцца масы сялянства.

Зімой нам пашчасьціла купіць вельмі танна чароўны ліхтар. Цяпер пазычаем дыапозытывы ў Акруговым Камітэце і праводзім гутаркі з ліхтаром.

Аднаму з сяброў К-ту ўдалося набыць набор друкаваных гумовых літар і мы цяпер друкуем кожнаму сябру невялічкія позвы на сход. Апошні раз мы надрукавалі на позвах напаміны, каб ачысьцілі і даглядалі студню і двор. Напамін падзейнічаў і спадабаўся ўсім. Сябры прасілі і ў будучым друкаваць падобныя напаміны.

Аб „Тыдню Чырвонага Крыжу“ мы чулі раней але ня ведалі, калі ён будзе праводзіцца. Дырэктывы атрымаліся са спазьненьнем, а дзеля таго рашылі і „Тыдзень Чырвонага Крыжу“ праводзіць пазьней (з 12 па 19 мая).

12-га мая склікалі сход сяброў Чырвонага Крыжу, запрасілі ўсе грамадзкія арганізацыі і сялянства. Зрабілі дэманстрацыю і сход правялі на чыстым паветры, а вечарам спэктакль, перад спэктаклем даклад аб супроцігазавай абароне.

Дагаварыліся, што кожны сябра, правядзе ачыстку жыльля, двара і калодзежа і паклапаціцца каб і сусед зрабіў гэта самае. Па вёсках рашылі правесьці суботнікі дзеля арганізацыі месц збора на вольным паветры: ачыстка, асушка і зарыхтоўка скамеек. Большага зрабіць у нашых умовах немажліва, тым больш, што час самы рабочы—пасеў.

*П. Лук'янін.*



Менская сандружына пад час сьвяткаваньня 1-га Мая.



Менская сандружына пад час сьвяткаваньня 1-га Мая.

## У вёсцы Слабада, Слабадзкога с-с., Калінкавіцкага раёну, Мазырскай акругі.

У верасьні месяцы 1928 году ў нашай вёсцы арганізавалася ячэйка Чырвонага Крыжу. Спачатку была малая ячэйка, але, калі пайшла праца, дык на 1-ае студзеня 1929 г. было 80 сяброў, а цяпер на 15-ае траўня мы маем 114 сяброў Чырвонага Крыжу: з іх мужчын 68 чал., жанчын 46; па партыйнасьці: партыйцаў 5, ЛКСМБ 10; рабочых 13, сялян 63, служачых 38. У кастрычніку месяцы мы арганізавалі Гурток Першае Дапамогі; гэты Гурток выпусьціў 9 чалавек-работніц саўгаса „Слабада". Ячэйка сумесна з усімі арганізацыямі збудавала лазьню, якая прапускае ў дзень 30—40 чалавек. У часе „Тыдню Чырвонага Крыжу" ячэйка выдзеліла тры атрады, якія прайшлі праз вёску, што дало добрыя вынікі; апрача гэтага, было праверана санітарнае становішча вёскі і сямігодкі.

Наша ячэйка дала аптэчку першае дапамогі ў далёкую цёмную вёску нашага с/савету—Касьцікевічы, якая знаходзіцца за 8 вёрст ад нас. Сяляне цяпер прыходзяць з Касьцікевіч і просяць білеты Чырвонага Крыжу, зараз і там арганізуем ячэйку.

У тыдзень аховы здароўя вучняў, па ініцыятыве ячэйкі Чырвонага Крыжу, усіх вучняў сямігодкі прапусьцілі бясплатна ў лазьню. Наогул наша ячэйка Чырвонага Крыжу праводзіць вялікую працу сярод насельніцтва, акрамя гэтага ячэйка мае вялікі аўтарытэт. Але нам ня трэба на гэтым спыняцца, а трэба яшчэ больш падымаць працу Чырвонага Крыжу, гэтым мы дапаможам Камуністычнай партыі, Ленінскаму Камсамолу і Савецкай уладзе выканаць лёзунг культурнай рэвалюцыі. Мы гэта выканаем.

Камсамолец—сябра Чырвонага Крыжу *Гэльфанд Яўхім*.

## Што нам даў Чырвоны Крыж?

*(Ячэйка Камунальнікаў, Гомель).*

Мне, асабіста Чырвоны Крыж даў вельмі многа. У жонак рабочых, заўсёды занятых дамовай працай і дзяцьмі, вядома якія веды. Яны і паняцьця ня маюць у справе аказаньня першае дапамогі пры няшчасных выпадках.

Раней я сама на рану клала павуціну і верыла, што цечу крыві можа спыніць толькі шаптуха сваімі нашоптваньнямі; большага ад мяне і вымагаць нельга было, бо гэтую спадчыну я атрымала ад сваіх прабабак. Але цяпер, калі я скончыла Гурток Першае Дапамогі і акуратна наведваю заняткі сан. дружыны, я аглядаюся назад і мімаволі жах мяне агортвае пры думцы, што столькі гадоў пражыла я ў цемры. Мае тэо-

рэтычныя веды я замацавала на практычнай працы ў аднэй з сялянскіх амбуляторый, дзе працавала два месяцы.

Я, матка 5-цёх дзяцей і гаспадыня дому, адходзіла кожны дзень з 9-ці гадзін раніцы да 3-х гадзін дню ў амбуляторыю, ня лічачыся з хатняй працай, бо імкнулася да ведаў. Прапрацаваўшы некаторы час, я ўжо самастойна рабіла перавязку на кожнай ране і падрыхтоўвала розныя мазі. Мы, чырвоныя сёстры, як адна, гатовы на заклік нашай партыі выступіць на абарону савецкай краіны, а пакуль не патрабуецца наша дапамога ў вайсковых умовах, мы будзем аказваць дапамогу мірнаму насельніцтву.

Мая рада ўсім сёстрам, атрымаўшым веды ў Гуртках Першае Дапамогі, а асабліва сан. дружыньніцам, свае веды замацаваць на практычнай працы і сумленна выконваць ускладзеныя на іх абавязкі.

*Куніна.*

## У вёсцы Халамер'е, на Віцебшчыне.

Вёска Халамер'е знаходзіцца на самай пэрыфэрыі Беларусі ў Езерашчынскім раёне, Віцебскай акругі—далёка ад чыгункі і гораду.

З прычыны дрэнных матар'яльных умоў (насельніцтва амаль усё бядняцка-серадняцкае), нізкага культурнага ўзроўня, неўраджайнасьці апошніх гадоў,—наглядаецца значнае распаўсюджаньне ўсіх сацыяльных хвароб: сухотаў, пранцаў, трахомы і г. д.

Барацьбу за аздараўленьне насельніцтва вядзе Халамерскі мэдычна-амбуляторны пункт, існуючы з 1925 г., для якога зараз будуецца новы будынак, сумесна з сан. камісіяй с/с і ячэйкай Чырвонага Крыжу, арганізованай толькі ў мінулым годзе.

З прыездам на пункт доктара, праца ячэйкі Чырвонага Крыжу ажывілася. Быў арганізаваны Гурток Першае Дапамогі, у які запісалася адразу 13 чал., пераважна сялянскай моладзі з суседніх вёсак і хутароў. Былі нават такія, якія жылі за 4—6 кілёмэтраў ад Халамер'я.

Заняткі адбываліся 1 раз у тыдзень, у памяшканьні мэд. пункта, прыблізна па прысланай Рай К-там Чырвонага Крыжу праграме.

На заняткі Гуртка заўсёды прыходзіла шмат ваколічных сялян і не сяброў гуртка (паколькі гэта дазваляла цесната памяшканьня), якія задавалі пасьля заняткаў шмат розных пытаньняў.

Слухачом Гуртка было прапанована прыходзіць на дзяжурствы ў амбуляторны пункт па 2 асобы па чарзе, дзеля практычнага азнаямленьня з прынцыпамі мэдычнай дапамогі, з пера-

вязкамі і г. д. Гэта аказалася вельмі мэтазгодным. Усяго было праведзена каля 10 заняткаў і ў Міжнародны Жаночы Дзень (8 сакавіка г. г.) быў наладжаны першы ўрачысты выпуск Гуртка. Быў арганізаваны вечар, на якім пасьля дакладу доктара аб задачах скончыўшых Гурток, былі выданы пасьведчаньні аб сканчэньні Гуртка, атрыманыя ў Акруговым К-це.

Яшчэ да сканчэньня працы з першым гуртком, паступілі прапановы арганізаваць яшчэ адзін гурток, што і было зроблена.

15-га красавіка г. г. быў зроблен выпуск 2-га гуртка, які выпусьціў яшчэ 15 чалавек.

2-му выпуску быў прысьвечаны спэктакль, пастаўлены сябрамі Гуртка—выпускнікамі. Была пастаўлена пьеса „Справа будзе“, надрукаваная ў „Бюлетэні“ №№ 4—7 за 1928 г.

Вопыт існаваньня гэтых гурткоў пацьвердзіў вялікае значэньне іх асабліва на вёсцы, дзе яны між іншым адыгрываюць значную ролю ў сэнсе барацьбы са знахарствам, якое дагэтуль прыносіць яшчэ шмат шкоды сялянству.

*М. А. Рэчнік.*

## Гурткі Першае Дапамогі на вёсцы.

Арганізацыя гурткоў Першае Дапамогі на вёсцы і правядзеньне гутарак сан. асьветы дае магчымасьць селяніну аслабаніцца ад тых цёмных, прывітых яму царызмам і царквою звычаяў, якія прыводзілі часта селяніна да калецтва і да хранічных захворваньняў. „Лячэньне“ канчалася часам нават сьмерцю, калі лячылі селяніна розныя шпатуны, папы, костаправы і іншыя „спэцыялістыя“.

Праз Гурткі Першае Дапамогі падрыхтоўваецца авангард барацьбітоў за лепшае будучае ў сэнсе аховы здароўя. Вось прыклады: селянін в. Гаршчэўшчына, Коханаўскага раёну зламаў сабе руку. Яго лячылі шэптамі на працягу году, пакуль рука не пачала гніць. Толькі выпадкова зайшоў да яго лекпом, які накіраваў хворага селяніна ў больніцу, яму там была зроблена апэрацыя—руку прышлося ампуціраваць. Наадварот, у в. Шчокатава, Дрыбінскага раёну, дзе моладзь праслухала праграму Гуртка Першае Дапамогі, быў выпадак пераломy рукі ў хлопчыка; брат яго, які прайшоў гурток, тут-жа зрабіў яму дапамогу, налажыўшы, як мае быць нярухомую павязку і накіраваў у Дрыбінскую больніцу.

Але такіх выпадкаў з пераломамі касьцей, раненьнямі, зьвіхамі—ёсьць дужа многа ў вёсках, а лечаць іх толькі знахары, пасьля якіх павялічваецца лік калецтваў і інваліднасьці.

Праўду сказаўшы, большая частка віны ў гэтым падае на вясковы мэд. пэрсанал, які часам ня толькі не арганізуе Гурткі Першае Дапамогі і не праводзіць гутарак сан. асьветы, але

ганьбіць тых, хто гэта робіць. Так, напрыклад, доктар Дрыбінскай больніцы Гярцоўскі казаў: „Вашаму Гуртку Першае Дапамогі і ячэйцы мы не дапаможам з раённага К-ту Чырвонага Крыжу таму, што ў Вас арганізаваны гурток бяз нас“. Калі ён прыехаў у вёску Шчокатава, дык, акрамя лаянкі, нічога Гуртку і ячэйцы больш не казаў і ня даў ніякага напрамку. Гэта зусім не нормальна. Мае ўражаньне і думка: кожны вясковы доктар павінен падрыхтоўваць сялянства праз Гурток Першае Дапамогі. Студэнты мэдычнага ф-ту павінны ведаць свой абавязак і, ад'яжджаючы ў вёску на летнія вакацыі, павінны арганізаваць ячэйкі Чырвонага Крыжу.



2-гі Гурток Першай Дапамогі ў в. Халамер'н, Віцебшчына.

ЦК і Акруговыя К-ты Чырвонага Крыжу!
Вёска ад Вас чакае літаратуру, плякаты, кіно-перасоўку, бо бяз гэтага трудна працаваць.

Студэнт *Непакайчыцкі.*

## Самі вучымся.

*(Круцікаўская ячэйка, Полаччына).*

Ячэйка наша вялікая, але, галоўным чынам, сялянская, ня толькі доктара, але фэльчара няма. Ня гледзячы на гэта, мы асьмеліліся вывучаць першую дапамогу. Акруговы Камітэт дапамог, даў літаратуры і плякатаў. Доўга мы рыхталіся, менш вытрыманыя адпалі, але 9 чалавек падрыхтаваліся і вырашылі схадзіць да вучастковага доктара за 15 вёрст на

праверку. Пайшло нас 6 чалавек. Доктар Галянц (Чырвонапольская б-ца) зацікавіўся нашым гуртком, правёў з намі гутарку па ўсёй праграме, знайшоў нашы веды здавальняючымі і выдаў нам аб гэтым паперку. Цяпер мы ўбачылі, што і самім можна вучыцца. Мы арганізаваліся ў зьвяно Першае Дапамогі і будзем паглыбляць нашы веды. Будзем дапамагаць і тым сябрам, якія запісаліся ў Гурткі і будуць вучыцца таксама, як і мы.

*Віяля.*

## Наш паход у чырвоныя казармы.

*(Гомель).*

3/III г. г. ячэйкай Чырвонага Крыжу і жэнарганізатарам пры Т-ве саматужнікаў быў арганізаван культурны паход у N полк, з мэтай папраўкі бялізны. Чырвоныя сёстры і жонкі саматужнікаў былі шырока павядомлены аб гэтым паходзе і трэба падкрэсьліць, што многія адгукнуліся на гэту позву. Нас было каля 60 чалавек. Асобны ўдзел прыняла наша белашвейная арцель; дружыньніцамі ў казармы былі прывезены 3 швейныя машыны. За 4 гадзіны было папраўлена 38 пар бялізны. Акрамя гэтага, пашыта 5 пар новай бялізны, папраўлена 30 паўшубкаў, 60 пар штаноў, некалькі шынэляў і гімнасьцёрак.

Усе жанчыны выявілі актыўны ўдзел у гэтай рабоце. Па сканчэньні пазнаёміліся з жыцьцём чырвонаармейцаў, якое зрабіла на нас добрае ўражаньне. Усюды мы бачылі чыстату і парадак.

Чырвонаармейцы засталіся вельмі задаволены нашай працай. Гэта быў наш першы паход, але мы спадзяемся, што ў далейшым мы будзем мець больш цесную сувязь з нашай падшэфнай часьцю.

*Стукалава, Гінзбург.*

## Перавыбары ячэйкі Чырвонага Крыжу пры клюбе Ільліча.

*(Ст. Менск, Заходняй чыгункі М.-Б-.Б.).*

3-га красавіка 1929 г. ў памяшканьні Клюбу адбыўся агульны сход сяброў Чырвонага Крыжу ў сувязі з перавыбарамі Бюро ячэйкі.

Да гэтага часу Бюро ячэйкі працавала слабавата, але усё-ж такі дасягненьні маюцца. Напрыклад: выпушчана 3 Гурткі Першае Дапамогі, праведзена вярбоўка ў сябры Чырвонага Крыжу і інш. У склад новага Бюро абрана 3 сябры і 2 кан-

дыдаты, а таксама і Рэвізыйная Камісія з 3-х сяброў і 2-х кандыдатаў.

Як у склад ячэйкі, так і ў Рэвізыйную Камісію абраны актыўныя таварышы, якія сапраўды могуць працаваць, і ў далейшым праца ячэйкі павінна быць пастаўлена на належную вышыню.

Новаму складу ячэйкі неабходна выпрацаваць плян працы. Акрамя гэтага, неабходна ўзмацніць працу ў галіне вярбоўкі сяброў Чырвонага Крыжу, каб да чарговых перавыбараў мець ня менш 200 сяброў.

*І. Майсюкевіч.*

## Як у нас з'арганізавалася ячэйка Чырвонага Крыжу.

*(З агульныя адукацыйныя курсы ў Менску).*

Ініцыятывай ячэйкі БДУ 1-га лістапада 1928 году была арганізавана ячэйка Чырвонага Крыжу пры 3-х агульна-адукацыйных курсах. Сяброў ячэйкі набралася каля 50 асоб. Зараз-жа быў арганізаваны Гурток Першай Дапамогі, у якім праз тыдзень пачаліся заняткі. Прапрацаваўшы трынаццаць заняткаў, Гурток выпусьціў 45 асоб. Праверка сяброў Гуртка выявіла добрыя веды ў пройдзеным матарыяле. Праца разгортвалася паступова, але з вялікай зацікаўленасьцю сяброў; значную ролю пры гэтым адыграў кіраўнік гуртка т. Ліўшыц.

Ячэйка зьвязалася з падшэфнай вайсковай часьцю, у якой быў зроблены даклад на тэму: „Значэньне Чырвонага Крыжу“; разам з гэтым было прыцягнута шмат чырвонаармейцаў у шэрагі Чырвонага Крыжу. Было праведзена дзьве экскурсіі: першая экскурсія ў дом Сан. Асьветы, другая—у Анатамічны Інстытут. Экскурсіі і наогул разьвіцьцё працы ўсё больш і больш падымалі юнацкі дух.

У будучым мы мяркуем зрабіць культ-паход у бліжэйшую вёску.

Урачыста прайшоў выпуск Гуртку, які адбыўся ў памяшканьні падшэфнай вайсковай часьці. Была прачытана лекцыя прадстаўніком ячэйкі БДУ, прывітаньне, пастаўлена п'еса „Справа будзе“, дэклямацыя, гульні. Прысутнічала асоб каля 600—чырвонаармейцаў, сяброў Чырвонага Крыжу і прадстаўнікоў іншых арганізацый. Зрабілі падпісны ліст на санітарны самалёт, які даў каля 15 руб. Ня гледзячы на тое, што нашыя сябры заняты навукай, хуткім тэмпам разгортваецца праца ячэйкі. Актыўнасьць таварышоў з кожным днём узмацняецца.

*Р. Істоміна.*

## Жыцьцё і праца Пярэжырскай ячэйкі Чырвонага Крыжу.

*(Вёска Пярэжыр, Сьмілавіцкага раёну).*

Пярэжырская ячэйка арганізавалася ў канцы 1926 г. У той час у м. Сьмілавічы быў раённы Зьезд мэдпрацаўнікоў. У бягучых справах Загадчык раёну доктар Л. Я. Хургін асьвятліў задачы і мэты Чырвонага Крыжу, а таксама вынес пажаданьне, каб кожны працаўнік вёскі арганізаваў у сваёй вёсцы ячэйку Чырвонага Крыжу.

Прыехаўшы ў в. Пярэжыр, я зараз-жа пачаў вярбоўку сяброў у шэрагі Чырвонага Крыжу. Навербаваўшы чалавек 20, склікалі агульны сход, дзе і выбралі Бюро ячэйкі, а таксама і Рэўкамісію, а таксама пастанавілі, каб кожны сябра завербаваў да сябе яшчэ двух сяброў. Ячэйка распачала працу і шпаркімі крокамі пачала падымацца ўгару. Дасталі чароўны ліхтар, з якім езьдзілі па вёсках і чыталі сан. лекцыі, рабілі агульныя сходы.

У хуткім часе праз РайКамітэт вытрабавалі зубгабінэт. Як толькі прыехаў зубгабінэт, праца пашла яшчэ шпарчэй. Арганізавалі Гурток Першай Дапамогі, у якім вялі працу зуб. доктар і я. Зуб. доктар таксама праводзіў у мясцовым клюбе з насельніцтвам лекцыі аб хваробе зубоў і роту. Штодзённа ўступала ў шэрагі Чырвонага Крыжу ня менш, як 3 асобы. Такім чынам, да канца маю месяцу 1927 г. ячэйка мела ў сваім складзе больш як 200 сяброў. Ячэйка таксама давала як матар'яльную, так і юрыдычную дапамогу насельніцтву, рабіла справаздачы на паседжаньні Сельсавету. На выпуск „Гуртка Першае Дапамогі“ прыехаў з Менску д-р Левінтаў. Слухачом, якія скончылі гурток, была выдана кштоўная літаратура.

У пачатку чэрвеня 1927 г. зубгабінэт выехаў. Засталіся мы з сваімі сябрамі праводзіць мэты Чырвонага Крыжу; праца заняпала. Гэта тлумачыцца тым, што мы мелі шмат сяброў, якія жылі ў далёкіх вёсках. Старшыня ячэйкі т. Савіч Мікіта ні разу не запытаўся, як працуе ячэйка, аб працы яе ён чуў праз людзей. Яму мусіць і ў галаву ня прыходзіла думка падварушыць працу ячэйкі. Мне ў сувязі з воспапрышчэпачнай кампаніяй, а таксама з асноўнай працай мала прыходзілася ўдзяляць увагі Чырвонаму Крыжу. Але па меры магчымасьці я-ж працаваў. Не прапускаючы ніводнага сходу сялянства, а таксама і ў амбуляторыі, я растлумачыў пра Чырвоны Крыж і запісваў новых сяброў, спаганяючы сяброўскія ўзносы ад старых. Рэўкамісія зусім не працавала. Засталіся мы з вялікай колькасьцю сяброў але бяз грошай ў ячэйцы, бо ўсе сяброўскія ўзносы ішлі на плату за кватэру зубгабінэта, наконт чаго было адпаведнае распараджэньне старшыні РайК-ту Чырвонага Крыжу. З гэтых сродкаў мы таксама аказывалі матары-

яльную дапамогу сялянству і куплялі алоўкі і сшыткі для „Гуртка Першай Дапамогі“. Урэшце, у нас засталося некалькі капеек. Больш ніхто не хацеў уступаць у шэрагі Чырвонага Крыжу, а таксама плаціць сяброўскія ўзносы, ня гледзячы на маё тлумачэньне. Склікаць агульны сход сяброў не ўдалося. Праца заснула і ячэйка стаяла на беразе распаду.

Такое становішча цягнулася па сьнежань месяц 1928 г. У гэты час асноўная мая праца паменшылася. Захацелася мне папрабаваць яшчэ раз наладзіць працу Чырвонага Крыжу. На гэты раз мне ўдалося. Зрабіў чыстку ячэйкі. Арганізаваў платны спэктакль на карысьць Чырвонага Крыжу. Арганізаваў новы „Гурток Першае Дапамогі“ з вясковай моладзі, зараз-жа зрабіў перавыбары Бюро ячэйкі і Рэўкамісіі. Перавыбары адбыліся 16 сакавіка б. г. У Бюро ячэйкі ўвайшоў я, а таксама вясковы актыў. Праца ячэйкі адразу ажывілася і зноў пачала расьці, павялічваючы аўтарытэт Чырвонага Крыжу у вачох насельніцтва.

У сучасны момант самая мацнейшая арганізацыя ў Пярэжырскім сельсавеце,—гэта ячэйка Чырвонага Крыжу. Аб гэтым можа сьведчыць Райкамітэт Чырвонага Крыжу. За час перавыбараў па сёньняшні дзень ячэйка зрабіла наступнае:

1) Адбылося 3 паседжаньні Бюро, на якіх разьбіраліся пытаньні аб узмацненьні Чырвонага Крыжу на вёсцы, санітарным аздараўленьні вёскі, матар'яльнай дапамозе насельніцтву і інш. пытаньні.

2) Адбыліся два агульных сходы, на якіх разьбіраліся чарговыя пытаньні жыцьця.

3) Былі пастаўлены 4 платных сьпяктаклі ў в. Пярэжыры і адзін у в. Лешніца.

4) Давалася як матар'яльная, так і юрыдычная дапамога насельніцтву.

5) Выпушчан „Гурток Першае Дапамогі і з слухачамі зроблена экскурсія ў г. Менск.

6) Праведзены „Тыдзень Чырвонага Крыжу“, які выразіўся ў растлумачальнай кампаніі, вярбоўцы сяброў, сан. аглядзе ўстаноў, студняў і г. д.

7) Зроблены збор па падпісному лісту на пабудову сан. самалёту Чырвонага Крыжу і

8) пры ўдзеле актыву былі праведзены лётарэі на карысьць Чырвонага Крыжу. На сёньняшні дзень ячэйка мае ў сваім складзе 57 асоб, з якіх 85 проц. актыву.

У гэтай працы, якую прарабіла ячэйка за час перавыбараў, было шмат і перашкод, якія, бязумоўна, адбіваліся на працы. Бывалі такія выпадкі, калі камсамолец голасна кажа: „Ня трэба нам Гурток Першае Дапамогі, а трэба нам палітгурток“. Акрамя гэтага, пры пастаноўцы сьпяктакляў ніхто з жанчын

не хацеў ісьці працаваць на сцэну артыстым, а то паабяцае, ды ня пойдзе. Дзякуючы настаўніцтву і ў гэтым напрамку мы мелі посьпех.

У сучасны момант ячэйка шмат чаго намячае правесьці па санітарнаму аздараўленьню вёскі. На гэтую працу яна мабілізуе Гурток Першае Дапамогі, слухачы якога бачылі ў Менску, у доме Сан. Асьветы, навочныя пабудовы—новыя вёскі. Усё тое, што намеціў Чырвоны Крыж правесьці на вёсцы, намі будзе выканана на 100 проц.

Няхай жыве Чырвоны Крыж!

*Жаваранак.*



1-шы Гурток Першай Дапамогі пры Жакце, № 20, (Менск).

## З лістоў надасланых у Аддзел Замежных Прэтэнзый.

*На № 0/39, 1929 г.*

Ад Труцько Васіля, праж. ў Польшчы, пошта Береза-Картузка, вёска Агароднікі.

Гэтым данашу, што ліст Ваш ад 21 сакавіка г/г. за № С/39 атрымаў.

Сардэчна дзякую Вам за аказанае мне садзейнічаньне па адшуканьню родзічаў; жадаю, каб Вашае паважанае Таварыства і ў будучым таксама сваей працай прыносіла карысьць чалавецтву.

Застаюсь з паважаньнем *В. Труцько.*

*Беларускаму Таварыству Чырвонага Крыжу.*

Дазвольце шчыра падзякаваць Вам за паведамленьне аб адшуканьні майго мужа Крываль Пятра, які больш 10 год мне нічога ня пісаў. Думка ў мяне і дзяцей маіх была адна, што яго няма ў жывых. У Амэрыку ён уехаў ужо 16 год таму назад. Першыя 3 гады ён кой-чым дапамагаў нам, а потым забыў мяне і сваіх 2-х дочак, якіх аставіў 3-х і 4-х летнімі. За гэты час я нямала перацярпела ўсякага гора. Былі часы, калі ня было нават куска хлеба і я, яго жонка, пакідала гэтых 2-х малютак галодных, бяз усякага нагляду і ішла, каб зарабіць кусок хлеба, на падзённую працу. Па маёй беднасьці пры развёрстцы вёскі надзяліла мяне зямлёй, як бяднячку, Савецкая Ўлада, за што я і дзеці ёй зусім адданы.

Дазвольце яшчэ адзін раз падзякаваць за аказаную нам Вамі паслугу. Я і дзеці вельмі рады, што муж і наш бацька жывы і цяпер.

Пры гэтым дабаўляю, што мяне вельмі зьдзіўляе, што ён ня знаў майго адрэсу і просіць яго паведаміць, а трэба пры гэтым сказаць, што ён са мною жыў 18 гадоў у гэтай самай вёсцы, у якой я жыву цяпер—у Бокшыцах. Мне думаецца, што ён хлусіць, што ня ведае адрэсу. Адрэс мой наступны: Вёска Бокшыцы, Слуцкага раёну, Бабруйскае акругі—БССР,

Крываль Ульляне Данілавай. Просьба мая апошняя яшчэ к Вам, калі магчыма, напішэце, каб ён прыяжджаў дамоў, я, яго жонка і дзеці будзем рады.

Пры гэтым яшчэ адно. Пётр Крываль, мой муж, які знаходзіцца ў Амэрыцы 16 год і 10 мне даваў мне знаць аб сабе, у сучасны момант напісаў раней Вашага паведамленьня, што прышоў з работы і ў газэце, у аддзеле розыску знайшоў сваю фамілію і вельмі ўзрадаваўся, што я жыва.

Мне цікава ўзнаць, як ён жыве там, працуе ці бяз працы, але, ня гледзячы на гэта, няхай прыяжджае дамоў, гэта для нас больш будзе радасьці, чым усё, а калі ня можна, няхай хоць чым дапаможа калі ня мне, дык сваім дочкам Ульляне, або Мар'і Крываль.

Пісьмо мужу я паслала заказное, тыдзень таму назад, у якім таксама прашу яго прыяжджаць дадому.

Жана яго Ульляна Крываль (няпісьменная).

Дзень добры паважанае Таварыства! Паведамляю, што я Вашае пісьмо атрымаў, у якім Вы паведамілі мяне аб маім бацьку, што ён жывы, я Вам за гэтую Вашу ласку сам ня знаю якую прынесьці карысьць, я шчыра дзякую Вам. І яшчэ, калі ласка паведаміце мне, якую Вам прынесьці карысьць за Вашу дапамогу, дык я прынясу. А што доўга я Вам не даваў адказу, дык, калі ласка, выбачайце, я ад'яжджаў на заработкі. Прашу Вас паведаміце мяне, ці знаў мой бацька аб тым, што я яго шукаю? І яшчэ прашу Вас паведаміць, бо мне тут вельмі цяжка жыць і я хочу паехаць да бацькі і ня маю столькі грошы, каб туды заехаць. Сям'я наша з 4-х душ, з якіх адзін я толькі рабочы. Матка зусім ня здольна да працы, адзін брат малалетні, а другі брат служыць у Чырвонай Арміі, дык прашу парадзьце мне куды зьвярнуцца, каб далі танны праезд да бацькі. Будзьце ласкавы паведаміце мне хутка.

*Антось Воронька.*

Мой адрас: мяст. Смалявічы, Вакзальная вул., № 147.

Тов. *Редактору.*

„Полесской Правды" в гор. Гомеле, ч/с.с.т.с. А. Каравайского.

Прошу поместить в ближайшем номере газеты нижеследующую благодарность.

Ровно пятнадцать лет истекает, как мною была потеряна связь з родичами, проживающими за-границей (Польша). Энергичным розыском Гомельского и Центрального Комитета Белорусского Общества Красного Креста, родичи и их адреса разысканы, связь восстановлена, за что выражаю пролетарскую благодарность означенному органу.

Гор. Гомель. *А. Каравайский.*

## Марш Чырвонага Крыжу.

Працы усюды багата,
Гіне у брудзе народ,
Дымам закурана хата—
Усе, як адзін, у паход!

Годзе бяздомкам туляцца,
Славіць чужыя куты—
Пойдзем за долю змагацца
Ленінскім шляхам, браты!

Цяжка ісьці сярод ночы...
Духам ня падай—ідзі!
Лёс пралятарскі, рабочы,
Ты нас наперад вядзі.

Бракне паветра і сьвету,
Душаць сухоты і дым...
Дружна—на помач Саветам,
Самі сабе і усім!

Кінем нуду і маруду,
Выганем гразь і бяду,
Хаты ачысьцім ад бруду,
Зьнішчым у шпарах брыду!

У кожны глухі закавулак,
Бліжэй да курных халуп
Больніцу, яслі, прытулак,
Лазьню, кнігарню і клюб!

Больш самадзейнасьці ўсюды—
Прэч, знахары і папы:
Злыдні працоўнага люду,
Нечысьці ўсякай слупы!

Вораг за межай ня дрэмле—
Хоча ў свае кіпцюры
Ўзяць нашу вольную землю...
Будзем гатовы зґары!

Стрэлка ідзе на дванаццаць...
Трэба у час і заўчас
З марляй умець зварачацца,
Кожнаму даць процігаз.

Сёстры, браты-санітары!
Ў шэраг усе, як адзін!
Сьмела, ў паход, пралятары!
Сьмела, ў паход, селянін!

*А. Зіміонка.*

# Далейшая дапамога дзецям рабочых і бяднейшых сялян у Заходняй Беларусі і Латвіі.

Згодна пастановы III-га Пленуму ЦК, Прэзыдыум працягвае дапамогу дзецям рабочых і сялян Заходняй Беларусі і Латвіі.

Гурток Т-ва Беларускай Школы ў в. Рымкі, Пастаўскага с/с на Віленшчыне зьвярнуўся ў Беларускі Чырвоны Крыж з наступным хадайніцтвам:

*Да Цэнтральнага Камітэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу.*

Управа Рымкаўскага гуртка гэтым ветліва зварочваецца з гарачым заклікам прысьці з матар'яльнай дапамогай—прысылкай кніжак сельска-гаспадарчага і літаратурнага зьместу. Цяжкія неўраджайныя гады і малазямельле вельмі цяжка адбіваецца на плячох працоўнага селяніна. Па ўсім сьвеце ўсе народы горнуцца да культурна-асьветнае працы, тады як у нашым кутку сялянскі быт ад маласьвядомасьці з кожным годам горшае. Па ўсёй нашай старонцы большая маса працоўных пачала добра разумець, што жыць у цемры немагчыма. Вось большасьць вясковай моладзі, уступаючы ў сябры Т-ва Б. Ш.—пастанавіла, у першую чаргу, ўзьняць узровень культуры асьветнай.

Управа Рымкаўскага гуртка Т-ва Б. Ш., ведаючы пра існаваньне беларускіх устаноў, пастанавіла зьвярнуцца ў ЦК Беларускага Чырвонага Крыжу ў Менску з просьбай ахвяраваць некалькі кніжак для толькі што адчыненай у нашай вёсцы бібліотэкі.

Няхай-жа распачатая намі праца на ніве культурна-асьветнай знойдзе сабе прыхільнасьць сярод нашых дарагіх братоў на ўсенькім сьвеце.

Будзем-жа гарнуцца з запалам да вялікае працы ўзбуджэньня нацыянальнае сьвядомасьці вёскі. Каб ня было ніводнага кутка на нашай Беларускай зямліцы, дзе праменьні сьвятла навукі не маглі знайсьці сабе доступу. Няхай-жа і нашая вёска ўбачыць гэтае сьвятло пра чытаньне кніжак і газэт у роднай мове. Няхай XX век загладзіць застарэлую цемру даўнейшага жыцьця. Усе будзем гарнуцца давясьці нашых абяздоленых братоў на шлях культурна-асьветны.

З пашанай Управа Рымкаўскага Т-ва

*Мікалай Курыловіч.*

У адказ на гэтае хадайніцтва Выдавецка-Кнігарны Аддзел ЦК паслаў Рымкаўскаму Гуртку рознай, у тым ліку сан-асьветнай літаратуры на 50 руб.

Па просьбе Дзьвінскай Беларускай Гімназіі, ёй паслана літаратура і падручнікі на суму 130 руб.

Праз Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі ад тамтэйшых школ у ЦК прышлі наступныя падзякі за дапамогу:

Шылаўская Беларуская
4-х кл. пачатковая школа
Пасінскай Гміны,
Люцынскага павету.
3 сакавіка 1929 г.
№ 32.

**У Беларускі Чырвоны Крыж.**

Школьная рада Шылаўскай Беларускай пачатковай школы і бацькі вучняў Шылаўскай школы шлюць вялікую падзяку Беларускаму Чырвонаму Крыжу і ўсім сьвядомым беларускім арганізацыям за межамі Латвіі, за прысланыя нам кніжкі.

Сваей прысылкай кніг у нашу далёкую, бедную беларускую школу, Вы даеце магчымасьць хоць нямнога нам беларусам, жывучым у Латвіі, пітацца духоўным жыцьцём, у якім у нас адчуваецца вострая патрэба.

Старшыня школьн. Рады *М. Андрушэнка.*
Дзелавод *Алекс. Зэйліш.*

**Таварыству Беларускага Чырвонага Крыжу.**

Школьная Рада 11 Прыдруйскай беларускай пачатковай школы шле шчырую падзяку Таварыству Беларускага Чырвонага Крыжу за дарагі падарунак—падручнікі і бібліятэчку, якімі наша школа будзе карыстацца з належнай пашанай.

Старшыня школьнай Рады (*подпіс нячытэльны*).
Сакратар (*подпіс нячытэльны*).
Кіраўнік школы *К. Дубавік.*
Вучыцялі: *Э. Міpановіч.*
*В. Міpановіч.*

1-III-29 г.

## Аб вучоце росту Бел. Чырв. Крыжу.

Вучот, кажуць—люстра, якое адлюстроўвае кожную працу. У нас-жа, у нашым Т-ве да гэтага часу не аддаецца належная ўвага гэтай справе. Доказам можа быць зьмяшчаемая ніжэй табліца: „веды аб руху сяброў“.

## Веды аб руху сяброў Беларускага т-ва

| Назва акругі | Па сацыяльнаму станові | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабоч. | Сялян | Служачых | Вайск. служачых | Вучняў | Саматужн. | Іншых і ўтрыман. |
| 1. Менская . . . | 692 | 1.496 | 1.642 | 2.187 | 744 | 50 | 2.466 |
| 2. Віцебская . . . | 1.745 | 1.918 | 1.762 | 699 | 507 | 445 | 802 |
| 3. Гомельская . . | 831 | 709 | 1.295 | 252 | 290 | 158 | 1.274 |
| 4. Магілеўская . . | 894 | 1.344 | 2.392 | 317 | 494 | 361 | 501 |
| 5. Бабруйская . . | — | — | — | — | — | — | — |
| 6. Аршанская . . | 569 | 1.455 | 1.249 | 70 | 299 | 122 | 366 |
| 7. Мазырская . . | 303 | 494 | 912 | 58 | 12 | 77 | 340 |
| 8. Полацкая . . . | 525 | 516 | 1.053 | 309 | 77 | 52 | — |
| 9. Дарожны к-т . . | 382 | 23 | 666 | 2 | 43 | — | 622 |
| Разам . . | 5.941 | 7.955 | 10.971 | 3.894 | 2.466 | 1.265 | 6.371 |

## Чырвонага Крыжу на 1 красавіка 1929 г.

| шчу | | Па партыйнасьці | | | | Па полу | | Нявысьветлена | Заданьне на 1928—29 г. | Нявыканана заданьне |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нявысьветленых | Разам | Член. і канд. КП(б) | Член. і канд. ЛКСМБ | Беспартыйных | Нявысьветленых | Мужчын | Жанчын | | | |
| 207 | 9.484 | 440 | 650 | 6.969 | 1.425 | 5.554 | 3.723 | 207 | 13.200 | 3.716 |
| 2.815 | 10.693 | 627 | 969 | 5.845 | 3.552 | 4.132 | 3.746 | 2.815 | 12.000 | 1.307 |
| 10 | 4.819 | 319 | 391 | 4.077 | 32 | 1.739 | 3.070 | 10 | 10.150 | 5.331 |
| — | 6.303 | 380 | 193 | 5.730 | — | 3.618 | 2.685 | — | 12.500 | 6.197 |
| 5.829 | 5.829 | — | — | — | 5.829 | — | — | 5.829 | 10.750 | 4.921 |
| — | 4.130 | 343 | 392 | 3.395 | — | 2.413 | 1.717 | — | 8.400 | 4.270 |
| 506 | 2.702 | 243 | 209 | 1.771 | 479 | 1.397 | 799 | 506 | 5.300 | 2.598 |
| 14 | 2.546 | 403 | 466 | 1.677 | — | 1.204 | 1.320 | 14 | 5.700 | 3.154 |
| — | 1.738 | 154 | 51 | 1.450 | 83 | 620 | 1.118 | — | 300 | 1.262 |
| 9.381 | 48.244 | 2.909 | 3.321 | 30.914 | 11.100 | 20.677 | 18.186 | 9.381 | 81.000 | 32.756 |

Зьмяшчаючы гэту табліцу, мы просім нашых чырвонакрыжных работнікаў, пачынаючы з Акруговых К-таў і канчаючы Бюро ячэйкі, добра да яе прыгледзіцца. Калі яны гэта зробяць, дык, бязумоўна, пэўна скажуць, што з вучотам сяброў Т-ва ў нас справа стаіць дрэнна.

Гляньце на графу „нявысьветленых“, і вы ўбачыце, што ў большасьці нашых акруг гэтая лічба вялікая. Бабруйская акруга, якая ў гэтым сэнсе пабіла „рэкорд“ і Бабруйскі Акруговы Камітэт, на працягу 2-х год абмяжоўваліся толькі паведамленьнем агульнай лічбы членаў. Ад іх амаль не адстае і Полацкая акруга.

Нізавым работнікам трэба ведаць аб гэтым няпрыемным зьявішчы і прадстаўляць належныя веды аб руху сяброў у вышэйстаячыя Камітэты за кожны квартал, па адпаведных формах.

Калі ўсё будзе выконвацца ў тэрмін, тады мы зьнішчым няпрыгожую графу „нявысьветленых“, лішнюю перапіску з прапановамі і загадваньнямі „аб дасылцы ведаў і адваротнай адпіскі—„няма ведаў з месц, па атрыманьні будуць дасланы“ і г. д.

Паглядзіце на 2 апошніх графы: „заданьне на 1928—29 год і невыкананьне заданьня“, там таксама вы ўбачыце лічбы невыкананьня, што ў агульным падліку па ўсіх акругах дае вялікую лічбу, роўную 32.000.

Можа тут хто-небудзь скажа, што заданьне вельмі вялікае, яго нельга выканаць? Гэта будзе няпраўда. Заданьне выканаць магчыма, трэба толькі добра правесьці належную працу ў гэтым напрамку. Прыкладам могуць быць Віцебская і Менская акругі, якімі да канца году заданьне будзе выканана. Ня гледзячы на тое, што Віцебскай акрузе заданьне было дадзена большае, чым іншым акругам.

Пры дрэннай пастаноўцы вучоту, мы ня маем магчымасьці мець поўнага ўяўленьня аб тым, у якім становішчы знаходзіцца наша арганізацыя, як мы расьцем, куды расьцем—у якую групу па сацыяльнаму становішчу і г. д. Адсутнасьць дакладнага вучоту перашкаджае ЦК у рэгуліраваньні росту арганізацыі.

Адзначаючы недахопы, я зусім ня хочу сказаць, што няма росту нашае арганізацыі. Рост безварункова ёсьць і можа быць вялікі, з прычыны актыўнасьці і зацікаўленасьці нізавых працаўнікоў і масы членаў Т-ва,—але Акруговыя К-ты ў большасьці гэтага не адбіваюць. Тут адчуваецца нейкі адрыў, які Акругам і РайК-там неабходна ў самы бліжэйшы час зьнішчыць. Трэба наладзіць вучот членаў Т-ва і прыняць усе меры для выкананьня кантрольных лічбаў па членству на 1928—29 г., якія пастанавіў ЦК.

*Ф. Кусьцікаў.*

---

# Афіцыйны аддзел.

## Рэзалюцыя 3-га Пленуму Цэнтральнага К-ту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу па дакладу т. М. І. Барсукова аб працы Прэзыдыуму ад кастрычніка 1928 г. па 1-ае траўня 1929 г.

1. Заслухаўшы даклад т. Барсукова аб працы Прэзыдыуму, Пленум ухваляе агульную лінію працы і адзначае наступныя важнейшыя пытаньні, якія былі прапрацаваны:

а) Падрыхтоўка да 2-х кампаній, — па перавыбарам ячэек і раённых К-таў і па правядзеньню „Тыдню Чырвонага Крыжу“,

б) Пастаноўка дакладу ў ЦВК БССР аб дзейнасьці Цэнтральнага К-ту.

в) Распрацоўка статуту Чырвонага Крыжу.

г) Пачата пабудова абшчажыцьця для школы мэд. сясьцёр.

Пленум лічыць вельмі важнай матар'яльную дапамогу, зробленую ЦК дзецям рабочых і сялян Заходнай Беларусі і пасылку беларускіх падручнікаў у Латвію.

Пленум адзначае ўзмацненьне жывога інструктажу з боку ЦК, што выявілася ў абсьледваньнях членамі ЦК мясцовых арганізацый.

2. Пленум зацьвярджае балянс Цэнтральнага К-ту за 27—28 г. і адзначае наступнае:

а) Прыбытковая частка бюджэту ў значнай частцы выканана. Невыкананьне бюджэту, галоўным чынам, падае на мясцовы бюджэт.

б) Узмацненьне фінансавай базы большасьці акруг у значнай ступені ішло за кошт ЦК.

в) Вельмі слабае паступленьне прыбыткаў ад сяброўскіх узносаў, якое у стасунку да намечанага па каштарысу складае ўсяго ледзь 27,4 проц. Гэта паказвае на кепскія мейсцамі адносіны да зьбіраньня сяброўскіх узносаў, а мейсцамі на тое, што лік сяброў не адпавядае сапраўднасьці.

г) Слабае выкананьне выдатковай часьці бюджэту па санітарнаму будаўніцтву і па санітарнай абароне пры наяўнасьці павялічэньня адміністрацыйных выдаткаў.

3. Пленум зварочвае ўвагу Акруговых К-таў на неабходнасьць хутчэйшага спыненьня ўсіх гэтых ненармальных зьявішчаў, якія паказваюць на недастатковa-ўважлівыя адносіны да нізавой працы. У далейшым неабходна строга сачыць за выкананьнем грамадзкай дысцыпліны ў зьбіраньні сяброўскіх узносаў. Адказнасьць за сваечасовае паступленьне сяброўскіх узносаў узлажыць на бюро ячэек і прэзыдыумы Раённых К-таў. Кожны сябра Чырвонага Крыжу павінен памятаць, што сяброўскі ўзнос зьяўляецца адным з галоўнейшых выяўленьняў таварыскай салідарнасьці ўсяго чырвона-крыжнага калектыву і складае асноўную фінансавую базу для дзейнасьці ўсёй арганізацыі. Пытаньне аб неабходнасьці сваечасовага збору сяброўскіх узносаў трэба ва ўсю шырыню паставіць на масавых сходах сяброў Чырвонага Крыжу.

4. Пленум лічыць неабходным шырокае абгаварэньне на адкрытых сходах ячэек, выкананьня бюджэту за 1-ую палову 1928—29 году. Адначасова з гэтым правесьці паралель выкананьня бюджэту за 1927—28 г. і высьвятліць, чаму ён выконваецца са зьмяншэньнем супроць папярэднага каштарысу.

5. Пленум прапануе кантрольныя лічбы бюджэту на 1929-30 г. разаслаць у акругі не пазьней 1-га ліпеня з тым, каб не пазьней верасьня мог быць зацьверджаны ўвесь бюджэт. У далейшым практыкаваць складаньне балянсу не пазьней лістападу наступнага бюджэтнага году, каб мець магчымасьць вучоту мінулага вопыту.

6. Прымаючы пад увагу, што Ўрадам БССР складзены пяцігодні плян разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры, Пленум лічыць мэтазгодным складаньне пяцігодняга пляну і для Беларускага Чырвонага Крыжу. Гэтую працу трэба скончыць да верасьня 1929 г., каб першым годам пяцігодкі можна было лічыць 1929—30 г.

7. Надаючы вялізарнае значэньне Аддзелу Санітарнае Абароны, Пленум адзначае недастаткова актыўную працу апошняга. Неабходна Прэзыдыуму ЦК прыняць усе меры да хутчэйшага ўзмацненьня гэтага найважнейшага Аддзелу Цэнтральнага К-ту і прыступіць да праверкі працы па санітарнай абароне на мясцох. У сучасны момант, калі краіне пагражае эпідэмія сыпнога тыфусу, неабходна мацней разьвіць працу Чырвонага Крыжу ў галіне аздараўленьня быту і працы. Тут на першым месцы павінна стаяць будаўніцтва лазьняў на вёсцы і дапамога органам аховы здароўя ў парадкаваньні прасьцейшых дэзкамер „вошабоек“. Пытаньне аб барацьбе з вашывасьцю трэба завойстрываць на ўсіх сходах ячэек Чырвонага Крыжу.

8. Сацыялістычная перабудова сельскае гаспадаркі высоўвае ўзмацненьне працы Чырвонага Крыжу па лініі калектывізаванага сэктару на вёсцы. Калгасы, саўгасы і камуны павінны быць у цэнтры ўвагі Чырвонага Крыжу. Будуючаяся

прамысловасьць высоўвае перад Чырвоным Крыжам пытаньне аб большай увазе фабрычна-заводзкім прадпрыемствам.

9. Вопыт працы Акруговых К-таў у сэнсе кіраўніцтва апошнімі сваіх нізавых ячэек паказаў на неабходнасьць перагляду сыстэмы кіраўніцтва. Як агульнае правіла Раённыя К-ты, і ў сілу гэтага нізавыя ячэйкі, недастаткова атрымліваюць жывы інструктаж, што адбіваецца ня толькі на слабым тэмпе разьвіцьця чырвона-крыжнай арганізацыі, але і на пастаноўцы грамадзкай дысцыпліны. Ідэі Чырвонага Крыжу яшчэ недастаткова ўсьвядомлены шырокімі масамі насельніцтва. Усё гэта высоўвае неабходнасьць утварэньня на мясцох Гарадзкіх К-таў Чырвонага Крыжу, у першую чаргу ў буйных раённых пунктах, і перагляду пытаньня аб сыстэме кіраўніцтва раённымі К-тамі з боку Акруговых К-таў і ЦК.

Пленум прапануе Прэзыдыуму распрацаваць пытаньне аб магчымасьці ўзмацненьня кіраўніцтва нізавымі арганізацыямі.

10. Пленум адзначае, што за апошні час работа ў школе мэд. сясьцёр узмацнілася. Асноўная перашкода ў працы—гэта адсутнасьць памяшканьня, як для абшчажыцьця, таксама і для чытаньня лекцый. Ухваляючы пачатак пабудовы дому для абшчажыцьця, Пленум прапануе так яго скончыць, каб у ім былі неабходныя памяшканьні і для заняткаў.

Пленум зварочвае ўвагу на недастатковую працу ўнутры школы ў сэнсе падрыхтоўкі ў ёй чырвона-крыжнага актыву. Неабходна ў бліжэйшы час на гэта зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу, каб Чырвоны Крыж мог-бы мець у скончыўшых сёстрах актыўных арганізатараў Гурткоў Першай Дапамогі, Санітарных Дружын і ячэек Чырвонага Крыжу. Пытаньне аб перадачы школы Наркамасьвеце лічыць не актуальным. Школу, якая павінна быць установай падрыхтоўваючай актыўных працаўнікоў і арганізатараў нашых ячэек, неабходна пакінуць пры ЦК Чырвонага Крыжу.

11. Пленум настойліва рэкамэндуе ўсім Акруговым К-там шырока практыкаваць арганізацыю вечароў на карысьць рабочых і сялян Зах. Беларусі. Неабходна зьвярнуць увагу ўсёй арганізацыі на інтэрнацыянальнае выхаваньне сваіх сяброў і на растлумачэньне міжнароднага значэньня Чырвонага Крыжу. Неабходна больш энэргічна папулярызаваць за мяжою дзейнасьць Беларускага Чырвонага Крыжу, шляхам арганізацыі там выставак і продажы сваіх выданьняў. Пленум даручае Прэзыдыуму перапрацаваць пытаньне аб распаўсюджваньні за мяжою беларускіх кніг сан. асьветнай літаратуры, асабліва паміж беларусоў у Амэрыцы і Польшчы, усялякага роду паштовак і мастацкіх выданьняў. Таксама мэтазгодна пасоўваць за мяжу і вытворчасьць мастацкіх арцэляй.

12. Разьвіцьцё сеці Гурткоў Першае Дапамогі і санітарных Дружын, а таксама наогул шырокая прапаганд ідэй Чырвонага Крыжу, асабліва ў частцы аздараўленьня быту і працы рабочых

і сялян, прымушае зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на пастаноўку работы ў Кніжнай Базе ЦК. Праца Базы паступова пашыраецца, але не ў такой ступені, як гэтага патрабуе сучасны момант. Акруговыя К-ты або ня купляюць літаратуры, а калі гэта робяць, дык міма Базы Чырвонага Крыжу. Пленум лічыць мэтазгодным:—далейшае ўзмацненьне Базы, больщую яе сувязь з акругамі. Неабходна, каб акругі ўсю закупку літаратуры рабілі толькі праз Базу ЦК. Характар праданай літаратуры неабходна прыстасаваць, галоўным чынам, да працы Чырвонага Крыжу і да тых кампаній, якія Чырвоны Крыж праводзіць.

13. Пленум адзначае значную работу, праробленую Аддзелам Замежнае Дапамогі. У далейшым неабходна: а) аформіць удзел мясцовых Камітэтаў у працы Аддзелу, б) шырока паставіць інфармацыю аб працы Аддзелу паміж працоўнымі і в) узмацніць Аддзел кваліфікаванымі працаўнікамі.

14. 4-ы Пленум ЦК склікаць у верасьні 1929 г. ў г. Віцебску.

## Рэзалюцыя па дакладу т. Кандрашука аб выніках зімовых кампаній Чырвонага Крыжу.

Заслухаўшы даклад т. Кандрашука аб выніках зімовых кампаній Чырвонага Крыжу, Пленум Цэнтральнага К-ту Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу адзначае:

1) Сваячасовую і правільную распрацоўку пытаньняў зімовых кампаній з боку Прэзыдыуму ЦК, што павінна было забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне іх на мясцох. Аднак перавыбары чырвонакрыжнай арганізацыі на мясцох сваячасова праведзены ня былі. Кампанія праводзілася не ў адзін час па рэспубліцы, а ў шэрагу акруг не пачыналася з прычыны аб'ектыўных прычын, як-то: справаздачна-перавыбарчая кампанія Сельсаветаў, РВК'аў і Гарсаветаў і іншых кампаній, супаўшых з тэрмінамі перавыбараў ячэек і раёнаў Чырвонага Крыжу.

2) Пленум абавязвае тыя акруговыя камітэты, у якіх перавыбары яшчэ не праведзены—скончыць іх не пазьней 1-га чэрвеня, сваечасова прадставіўшы ў ЦК падрабязна распрацованы матар'ял аб праходжаньні перавыбарчай кампаніі.

3) Даручыць Прэзыдыуму ЦК вызначыць цьвёрды тэрмін перавыбарчых кампаній наступнага году з тым, каб кампанія была скончана не пазьней лютага месяцу. Акруговыя К-ты павінны прыняць усе меры да таго, каб кампанія праводзілася ў адзін вызначаны тэрмін па ўсіх акругах, забясьпечваючы поўнае жывое кіраўніцтва на раёнах перавыбарамі прадстаўнікамі Акруговых К-таў Чырвонага Крыжу.

4) Маючыяся даныя росту арганізацыі характарызуюць слабы тэмп прытоку новых сяброў Чырвонага Крыжу, асабліва

сялянскага насельніцтва. Пленум зварочвае асаблівую ўвагу Акруговых К-таў на неабходнасьць абавязковага выкананьня кантрольных лічбаў росту арганізацый, якія даны акругам Прэзыдыумам ЦК. Рост арганізацый павінен адбывацца на здаровых падставах дабраахвотнага сяброўства пралетарскай грамадзкасьці, шырока разьвінаючы самадзейнасьць усёй сяброўскай масы навокал практычных пытаньняў па аздараўленьню працы і быту рабочых і сялян.

5) У пяршыню, праведзены ў гэтым годзе „Тыдзень Чырвонага Крыжу“, быў праведзены на мясцох слаба, з прычыны арганізацыйных цяжкасьцяй, недастатковасьці сваіх сіл. Слаба ў кампанію былі ўцягнуты іншыя грамадзкія арганізацыі. У далейшым „Тыдзень“ павінна папераджаць сваечасовая і грунтоўная падрыхтоўка—шырокае ўцягненьне ў масавую працу чырвона-крыжнага актыву і сяброўскіх кадраў, мабілізацыя навокал кампаній рабоча-сялянскіх мас і ўвязка з мясцовымі органамі пляну „Тыдню Чырвонага Крыжу“.

6) Вялізарнае імкненьне насельніцтва ў гурткі Першае Дапамогі і Санітарныя Дружыны з аднаго боку, з другога—неабходнасьць унядрэньня ў масы санітарнае культуры, ставіць перад органамі Чырвонага Крыжу асабліва востра пытаньне якасьці працы гурткоў і дружын, што павінна знайсьці практычнае праламленьне ў пытаньнях санітарнае абароны, асабліва ў аказаньні дапамогі пры газаатручваньні, прапаганды гуртkoўцамі і дружынамі мэтадаў працівагазавай абароны. Унесьці ў працу гурткоў і дружын большую чоткасьць і вайсковую дысцыплінаванасьць.

7) Арганізацыя навучаньня Першае Дапамогі павінна праходзіць строга па пляну ў адпаведнасьці з матар'яльнымі рэсурсамі і людзкімі сіламі, якія могуць кіраваць падрыхтоўкай па Першай Дапамозе. Неабходна арганізаваць плянамернае кіраўніцтва працай Гурткоў па навучэньню першае дапамогі шляхам вылучэньня ў Камітэтах спэцыяльных асоб, адказных за гэту працу.

8) Пленум даручае Прэзыдыуму тэрмінова распрацаваць справу стандартнага абсталяваньня санітарных дружын. Лічыць мэтазгодным, каб пры Аддзеле Санітарнае Абароны ЦК было забясьпечана ў наяўнасьці ўсё неабходнае абсталяваньне для Санітарных Дружын і заняткаў Гурткоў па навучаньню Першае Дапамогі, дзеля чаго цэнтралізаваць поўнасьцю сумы па працы санітарнае абароны ў Аддзеле ЦК.

9) Даручыць Прэзыдыуму ЦК у тэрміновым парадку забясьпечыць поўнасьцю ўсемі неабходнымі падручнікамі для заняткаў дружын і Гурткоў па навучаньню Першае Дапамогі для поўнага здавальненьня заявак Акруговых К-таў.

10) Зьвярнуць увагу акруг на правядзеньне цьвёрдай клясавай лініі пры камплектаваньні Гурткоў навучаньня Першае

Дапамогі і Санітарных Дружын, не дапускаючы ў іх склад чужы элемэнт.

11) Для больш цэнтралізаванага кіраўніцтва санітарных дружын і адзіных форм працы ва ўсіх дружынах, даручыць Прэзыдыуму ЦК распрацаваць пытаньне аб узмацненьні кіраўніцтва санітарнымі дружынамі.

12) Пленум адзначае вельмі слабае паступленьне сродкаў на санітарны самалёт, што тлумачыцца недастаткова выяўленай ініцыятывай месц. Пленум завойстрывае ўвагу ўсёй чырвона-крыжнай грамадзкасьці на неабходнасьці ўзмацненьня гэтай працы з такім разьлікам, каб сума намечаная мінулым Пленумам, была выканана да 3-га Зьезду Т-ва Чырвонага Крыжу.

13) З прычыны таго, што ў шэрагу акруг падрыхтоўка да конкурсу праведзена недастаткова, а ў некаторых падрыхтоўка яшчэ не пачата, лічыць неабходным у мэтах больш пасьпяховага правядзеньня конкурсу на лепшую ячэйку Чырвонага Крыжу, пачаць яго праводзіць з 1-га па 15-ае чэрвеня г/г.

## III Зьезд Украінскага Т-ва Чырвонага Крыжу.

8 чэрвеня 1929 г. ў г. Харкаве адбыўся III Ўсеукраінскі Зьезд Чырвонага Крыжу з наступнай праграмай працы:

1) Міжнароднае становішча СССР і задачы чырвона-крыжных організацый.

2) Інфармацыйны даклад Прадстаўніка Выканкому Саюзу Т-в Чырвонага Крыжу і Паўмесяцу.

3) Справаздача аб працы ЦК Чырвонага Крыжу УССР за 27—28 г. Садаклад Рэвізыйнай Камісіі ЦК.

4) Пяцігодні плян працы Чырв. Крыжу УССР.

5) Выбары Цэнтральнага К-ту і Рэвізыйнай Камісіі.

6) Бягучыя справы.

Ад Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу на Зьезд быў дэлегаваны Нам. Старшыні ЦК т. *Кандрашук*.

# Навіны з-за мяжы.

## Турэцкі Чырвоны Паўмесяц.

У Міжнародным Бюлетэні Чырвонага Крыжу за сакавік 1929 г. апублікаваны дзейны статут Турэцкага Чырвонага Паўмесяцу, прыняты агульным Зьездам у красавіку 1928 г. і ратыфікаваны Турэцкім урадам. У статуце гаворыцца, што Т-ва Турэцкага Чырвонага Паўмесяцу, закладзенае ў 1827 г. пад назвай Т-ва Турэцкага „Оттоманскага Чырвонага Паўмесяцу“, па рашэньню агульнага Зьезду было пераймянована ў Т-ва Турэцкага Чырвонага Паўмесяцу.

Ва ўсіх сваіх дзеяньнях Т-ва Турэцкага Паўмесяцу кіруецца прынцыпамі прынятымі Жэнэўскімі конфэрэнцыямі 1864 і 1906 г. і Гаагскай Конвэнцыяй 1907 г. Месцазнаходжаньне Цэнтральнага К-ту зьяўляецца Ангора. Т-ва Турэцкага Чырвонага Паўмесяцу знаходзіцца пад пратэктаратам прэзыдэнта Рэспублікі.

## 10 год дзейнасьці Латвійскага Чырвонага Крыжу.

Выканкомам атрымана справаздача Латвійскага Чырвонага Крыжу аб першых 10-ці гадох яго дзейнасьці.

На працягу гэтага пэрыяду ў Латвійскага Чырвонага Крыжу былі больніцы ў 14-ці цэнтрах, 5 санаторый і апрача таго ў 1922 г. ім былі прыняты 14 амбуляторый арганізаваных Амэрыканскім Чырвоным Крыжам, якія былі ператвораны ў цэнтры аховы здароўя. Большая частка гэтых цэнтраў утрымоўваецца Чырвоным Крыжам сумесна з гарадзкімі самакіраўніцтвамі. Ад 1921 да 1927 года гэтыя цэнтры прапусьцілі 257.340 наведнікаў, санаторыі зрабілі 214.034 наведваньняў на даму і дактары 8.462. Утрыманьне цэнтраў каштавала Чырвонаму Крыжу 459.155 лат. за 5 год.

Асоцыяцыя санітарак Чырвонага Крыжу налічвае 381 сяброў. Чырвоны Крыж моладзі ў 1928 г. мае 22.000 сяброў, арганізаваных у 320 гурткоў.

## Японскі Чырвоны Крыж.

Японскі Чырвоны Крыж вырашыў у працягу бліжэйшых 5-ці год павялічыць склад маючыхся ў яго распараджэньні сясьцёр да 7.000, лічачы, што маючыхся 5.000 сясьцёр неда-

статкова ў выпадку сур'ёзных катастроф, напрыклад, землятрасеньняў, паводак і г. д. Вярбоўка новых 2.000 сясьцёр у бліжэйшыя два гады не павінна адбіцца на папаўненьні старых кадраў, якое праходзіць рэгулярна ў зьвязку з адыходам са службы старых сясьцёр.

Згодна правілаў Японскага Чырвонага Крыжу, кожная сястра павінна знаходзіцца на актыўнай службе 12 год, аднак, гэта не заўсёды выконваецца ў зьвязку з хатнімі ўмовамі жыцьця сясьцёр. У выпадку надзвычайнай патрэбы гэткія сёстры часам мабілізуюцца.

## Санітарныя самалёты амэрыканскай арміі.

За апошнія гады ў Амэрыцы зьвярнулі асаблівую ўвагу на пабудову санітарных самалётаў.

У час міравой вайны вельмі мала самалётаў выкарыстоўвалася для санітарных мэтаў і то толькі ў надзвычайных выпадках, пры чым самалёты, прыстасаваныя да гэтай працы, нічым не адзначаліся ад машын звычайнага тыпу.

З трох самалётаў, якія ўжываюцца для гэтай мэты ў сучасны момант паветраным корпусам амэрыканскай арміі, два пабудаваны па тыпу „Кокс-Клемін“ і прыстасованы для перавозкі двух ляжачых хворых на насілках, разьмешчаных адны над другімі, санітара ці доктара, для якога сядзеньне знаходзіцца ў кабінцы побач з насілкамі; лётнік сядзіць перад кабінкай. Трэці самалёт зьяўляецца вялікім транспартным самалётам тыпу „Дуглас“, прыстасаваны для санітарных мэтаў. Усе тры самалёты забясьпечаны мэдыкамэнтамі і сан. матэрыялам. За 11 месяцаў мінулага 1928 г., гэтыя тры сан. самалёты былі выкарыстаны пры 22-х сур'ёзных выпадках, пакрыўшы агулам 3.735 міль у 45 гадзін, што склала экономію ў часе параўнаўча з звычайнай перавозкай некалькі больш, чым на 320 гадзін.

Выпадкі, пры якіх зварочваліся за дапамогай сан. самалётаў для перавозкі пацыентаў, уключалі пераломы, раны агнястрэльнай зброяй, апэндыцыт, язвы жалудка, сухоты, траўматычныя пашкоджаньні і інш. Як правіла, усе пацыенты перанесьлі пераезд вельмі добра, прыбыўшы да месца прызначэньня ў добрым становішчы.

Сан. самалёт тыпу „Кокс-Клемін“ падымаецца і апускаецца пры невялікай хуткасьці і патрабуе невялікі разгон на зямлі, што зьяўляецца надзвычайна неабходным пры дапамозе ў часе навальнага ліха, калі прыходзіцца дзейнічаць на невялікіх пляцох. Гэтыя самалёты маюць рухавік „Ліберці“ ў 450 конскіх сіл і ёмістасьць газаліна на шэсьць гадзін. Пры нармальных умовах яны разьвіваюць хуткасьць да 120 міль у гадзіну

з сярэдняй хуткасьцю 90 міль у гадзіну пры наяўнасьці цяжару.

Будучы стандартны тып санітарнага самалёту для арміі яшчэ ня ўсталены. Асаблівай патрэбы ў павялічэньні колькасьці сан. самалётаў ня маецца, але ўсе транспартныя самалёты ў арміі прыстасаваны для ператварэньня іх у выпадку патрэбы ў санітарныя. У іх маюцца прылады для насілак, разьмешчаных адны над другімі, месца для захаваньня мэдыкамэнтаў і іншых матырыялаў. Адзіным пярэчаньнем супроць гэткіх апаратаў зьяўляецца тая акалічнасьць, што імі трудна карыстацца ў выпадках, вымагаючых безадкладнай дапамогі.

---

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



## НА МЯСЦОХ



## АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ



## НАВІНЫ З-ЗА МЯЖЫ

